*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 14 чэрвеня 1985 г. № 24 (3278) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Чэрвеньскае світанне.

Фотаэцюд А. ЛАБАДЫ.

## У НУМАРЫ:

**Міхась КЕНЬКА**

**Плыць супраць плыні.**

Сучаснасць і сучасная літаратура.

●

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

*Паэт купалаўскай школы.*

*Да 80-годдзя з дня нараджэння Петруся Броўкі.*

●

**Аляксей РУСЕЦКІ, Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**Новыя вершы.**

●

**М. ЗАМСКІ**

***Восем стрэлаў у паветра.***

Судовы нарыс.



# ПАСКАРЭННЕ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАГА ПРАГРЭСУ—ПАТРАБАВАННЕ ЖЫЦЦЯ

11—12 чэрвеня ў ЦК КПСС адбылася нарада па пытаннях паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу. У яе рабоце прынялі ўдзел таварышы **М. С. Гарбачоў, Г. А. Аліеў, В. І. Варатнікоў, В. В. Грышын, А. А. Грамыка, Д. А. Кунаеў, Я. К. Лігачоў, М. І. Рыжкоў, М. С. Саломенцаў, М. А. Ціханаў, В. М. Чэбрыкаў, У. В. Шчарбіцкі, П. Н. Дземічаў, У. І. Далгіх, В. В. Кузняцоў, Б. М. Панамароў, С. Л. Сакалоў, Э. А. Шэварднадзе, М. В. Зімянін, І. В. Капітонаў, В. П. Ніканаў, К. В. Русакоў,** сакратары ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў партыі, рада буйных гаркомаў, міністры і старшыні дзяржкамітэтаў, савецкія і прафсаюзныя работнікі, вядомыя вучоныя, кіраўнікі і галоўныя спецыялісты навукова-вытворчых і вытворчых аб'яднанняў, прадпрыемстваў, будаўнічых арганізацый, калгасаў і саўгасаў, навукова-даследчых і праектных інстытутаў, ВНУ, перадавыя рабочыя і калгаснікі, наватары вытворчасці. У нарадзе ўдзельнічалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, друку.

З дакладам «Карэннае пытанне эканамічнай палітыкі партыі» на нарадзе выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС **М. С. Гарбачоў.**

У ходзе абмеркавання даклада ўдзельнікі нарады зацікаўлена і патрабавальна гаварылі аб карэнных пытаннях, ад якіх залежаць тэмпы сацыяльна-эканамічнага развіцця нашага грамадства, пераводу народнай гаспадаркі на інтэнсіўныя рэйкі развіцця. Яны сканцэнтравалі ўвагу на магістральных напрамках пошуку і выкарыстання ўнутраных рэзерваў для паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, эфектыўнай работы ва ўсіх сферах грамадскай вытворчасці.

З заключным словам на нарадзе выступіў М. С. Гарбачоў.

# СПРАВАЗДАЧА З'ЕЗДУ

Шырока і вольна ў той дзень лілася песня над стромкімі дрэвамі Мінскага парку культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў. Пра родны кут, пра яго людзей, пра каханне і шчасце, пра памяць аб мінулым спявалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці.

З канцэртам сюды прыехалі самадзейныя артысты Мядзельскага раёна. Праводзіць такія выступленні перад жыхарамі горада-героя Мінска стала традыцыяй. Сёлета яны праходзяць пад дэвізам «Міншчыны роднай славутыя крокі» і прысвячаюцца XXVII з'езду КПСС.

Перад пачаткам канцэрта выступіў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі РК КПБ А. Чарановіч, які расказаў аб дасягненнях працаўнікоў раёна, аб вырашэнні сацыяльна-эканамічных праблем.

Самабытна і шчыра ў выкананні самадзейных артыстаў прагучалі беларускія народныя песні «А мой мілы варэнічкаў хоча», «Пасылала баба дзеда», «Ой ляцелі гусі» і іншыя.

Высокае выканаўчае майстэрства прадэманстравалі танцавальныя калектывы, у рэпертуары якіх былі танец «Лявоніха», «Каза», «Восем дзяўчат, адзін я», кампазіцыя «Людзі свету, на мінуту ўстаньце».

**У. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ПРА РОЛЮ БІБЛІЯТЭК

Мінская абласная арганізацыя таварыства аматараў кнігі сумесна з абласнымі бібліятэкамі імя А. С. Пушкіна і імя Янкі Маўра правялі навукова-практычную канферэнцыю «Ідэалагічная работа бібліятэк у святле патрабаванняў пастановы ЦК КПСС «Аб далейшым паляпшэнні партыйнага кіраўніцтва камсамолам і пашырэнні яго ролі ў камуністычным выхаванні моладзі».

Тэме «Літаратура і сучасная ідэалагічная барацьба» прысвяціў сваё выступленне першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. Гілевіч. З дакладам «Бібліятэка і фарміраванне новага чалавека на этапе развітога сацыялістычнага грамадства» выступіў загадчык навукова-метадычнага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна М. Розум.

Аб ролі бібліятэк у выхаванні юнага пакалення ў духу сацыялістычнага патрыятызму і інтэрнацыяналізму гаварыла намеснік Дзяржынскай ЦБС А. Баранава. «Формы і метады выхавання чытачоў на прыкладах жыцця і дзейнасці У. І. Леніна і яго саратнікаў» — такая тэма выступлення намесніка дырэктара Мядзельскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы К. Фірагі.

Удзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі выпрацавалі мерапрыемствы па далейшым удасканаленні ідэйна-выхаваўчай і прапагандысцкай работы бібліятэк з моладдзю.

**Л. ПЯРШУК.**

# У ФОНД МІРУ

Аўтарэйс па маршруце Мінск — Асіповічы — Бабруйск — Магілёў — Горкі зрабіла група беларускіх пісьменнікаў, у складзе якой былі ветэраны вайны Л. Прокша, В. Трыхманенка, В. Трасцянскі, а таксама паэты пакалення, маленства якога апалена вайной, — Н. Тулупава, У. Скарынкін, В. Жуковіч.

У клубах і палацах культуры, у цэхах заводаў і фабрык, у актавых залах і аўдыторыях навучальных устаноў, у рабочых інтэрнатах былі наладжаны літаратурныя сустрэчы і вечары. Сродкамі мастацкага слова ўдзельнікі спецыяльнага аўтарэйсу прапагандавалі рашэнні красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС, унутраную і знешнюю палітыку КПСС, выступалі з успамінамі і творамі надзённай тэматыкі. Публіцыстыка і лірыка, гумар і сатыра не пакідалі раўнадушнымі слухачоў.

Ганарар, атрыманы за выступленні, пералічаны ў Савецкі Фонд міру.

**А. ВАСІЛЕВІЧ.**

●

Шосты нумар часопіса «Неман» адкрываецца вялікай падборкай твораў вядомых беларускіх паэтаў. Змешчаны вершы М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, К. Кірэенкі, М. Аўрамчыка, Т. Бондар, Г. Бураўкіна, А. Вялюгіна, А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, А. Грачанікава, С. Законнікава, В. Зуёнка, А. Лойкі, П. Макаля, У. Някляева, Ю. Свіркі, В. Лукшы, перакладзеныя А. Дракахрустам, П. Кошалем, А. Бараховічам, Б. Спрынчанам, С. Кузняцовай, І. Васілеўскім, В. Масаленкам, Р. Казаковай, І. Бурсавым, Л. Гямбіцкай, Э. Скобелевым.

Ганарар за творы, якія склалі гэтую падборку, што называецца «Адна надзея і адна трывога», аўтары ўносяць у Савецкі Фонд міру.

**Ю. ЗАРАНОК.**

●

Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР створана пяць гадоў назад. І з першага года свайго існавання ў аддзяленні стала традыцыяй штогод сіламі членаў Саюза пісьменнікаў, маладых літаратараў вобласці рыхтаваць і змяшчаць у абласной газеце «Віцебскі рабочы» літаратурную старонку «Зарніцы», ганарар за якую пералічваць у Савецкі Фонд міру.

Сёлетняя, пятая па ліку, літстаронка была прысвечана 40-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. У ёй — вершы пра франтавікоў, пра гераізм нашых людзей, пра любоў да Радзімы. Сярод аўтараў гэтых літстаронак — амаль усе пісьменнікі, якія працуюць на Віцебшчыне.

**Д. ГРЫГОР'ЕЎ.**

# У ВЯНОК ЛЮБОВІ ПЕСНЯРУ

Заклікальныя гукі старадаўняга беларускага музычнага інструмента сурмы, вернутага да жыцця вядомым музыкантам - рэстаўратарам У. Пузынем, якія звычайна апавяшчалі аб нейкіх важных падзеях, у мінулую нядзелю не выпадкова прагучалі ў парку беларускай сталіцы ля помніка народнаму песняру Янку Купалу. Чарговы раз тут прайшло традыцыйнае гарадское свята паэзіі «Палымянае слова паэта».

У выкананні У. Пузыня гучалі і іншыя старадаўнія музычныя інструменты, выступалі таксама ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці горада-героя. І, як заўсёды, прыйшлі на сустрэчу з чытачамі вядомыя беларускія паэты.

Адкрыў і вёў свята сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы В. Зуёнак. Выступілі перад прысутнымі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы П. Макаль і лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы М. Аўрамчык, а таксама лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова С. Грахоўскі, старэйшы беларускі паэт С. Шушкевіч, адзін з аўтараў помніка Янку Купалу, народны мастак БССР А. Анікейчык, паэты А. Вольскі, М. Федзюковіч, М. Шаховіч, галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы Я. Раманоўская, інжынер Мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт» В. Славінскі.



Сёлетняе свята «Палымянае слова паэта» прысвячалася дзвюм знамянальным датам — 40-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і 60-годдзю з дня прысваення Янку Купалу ганаровага звання народнага паэта. Гэта і падкрэслівалася ў выступленнях. А яшчэ гаварылася аб тым, як цесна быў звязаны Купала з жыццём роднага краю, як апяваў яго ў сваіх выдатных і неўміручых творах.

**А. БЕРАЗОЎСКІ.**

Фота М. МІНКОВІЧА.

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ



У час сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў. Амар Азрадж — другі справа.

Фота А. КАЛЯДЫ.

Мінск наведаў алжырскі паэт, крытык і журналіст, лаўрэат міжнароднай прэміі «Лотас» Амар Азрадж. Нарадзіўся ён у 1949 годзе. Працаваў выкладчыкам арабскай мовы, журналістам. Апошні час быў адказным сакратаром нацыянальнай замежнай камісіі Саюза пісьменнікаў Алжыра. Аўтар трох кніг паэзіі і дзвюх кніг літаратурна-крытычных артыкулаў, эсэ і інтэрв'ю. Беларусь ён наведаў з мэтай збору матэрыялаў для кнігі пра Савецкі Саюз. Раней пабываў у Маскве, Ленінградзе, Азербайджане, Казахстане, Узбекістане, Латвіі, Літве, Дагестане.

Госць наведаў Дом-музей І з'езда РСДРП, зрабіў паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь» і на радзіму Янкі Купалы — у Вязынку, пазнаёміўся з выдатнымі мясцінамі сталіцы. Амар Азрадж меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у якой удзельнічалі старшыня праўлення Максім Танк, першы сакратар праўлення Ніл Гілевіч, сакратар праўлення Іван Чыгрынаў, літкансультанты Аляксей Гардзіцкі, Яўген Міклашэўскі.

**А. КУЗЬМІЧ.**

У Мар'інагорскай сярэдняй школе № 3 пабывалі пісьменнік А. Савіцкі, Л. Прокша, М. Гамолка. Яны пазнаёміліся з дзейнасцю школьных музеяў У. І. Леніна, «Героі і подзвігі», зрабілі запіс у кнізе водгукаў.

У школе адбылася сустрэча з вучнямі і настаўнікамі, прысвечаная памяці пісьменніка-земляка М. Паслядовіча. Госці падарылі музеям свае кнігі з аўтографамі.

**М. ІВАНЕНКА.**

●

«Свет, створаны Алексіным, добры і гожы, у ім хочацца жыць, ён вучыць жыць». Гэтыя словы Марыі Прыляжаевай згадваліся пры сустрэчы, якая адбылася нядаўна ў Палацы прафсаюзаў. Анатоль Алексін, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і РСФСР, прыехаў у Мінск па запрашэнні Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя Астроўскага.

Адкрыла чытацкую канферэнцыю загадчыца метадычнага сектара Н. Цвірка. Усхвалявана, шчыра гаварылі пра творчасць вядомага пісьменніка бібліятэкары горада З. Даніловіч, С. Лісоўская, Л. Рубіна, Л. Бескіеру, Г. Новікава. У заключэнне выступіў А. Алексін.

У канферэнцыі прымалі ўдзел В. Вітка, А. Васілевіч, Э. Агняцвет, В. Хомчанка, Э. Гурэвіч.

**В. КАЗЛОЎСКІ.**

У Доме работнікаў мастацтваў адбыўся вечар, прысвечаны 25-годдзю Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР.

Адкрыў вечар начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР У. Лашкевіч. Ён уручыў калектыву Ганаровую грамату Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў СССР. ЦК прафсаюза работнікаў дзяржаўных устаноў за дасягнутыя поспехі ў справе збірання, забеспячэння захавання і арганізацыі выкарыстання дакументаў па гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва, а яго супрацоўнікам — ганаровыя граматы Галоўных архіўных упраўленняў пры Савеце Міністраў СССР і БССР, ЦК і БРК прафсаюза работнікаў дзяржаўных устаноў.

З паведамленнямі і ўспамінамі выступілі дырэктар архіва-музея Г. Сурмач, першы дырэктар і стваральнік установы К. Жорава, пісьменнікі М. Гамолка, С. Шушкевіч, А. Мальдзіс, рэдактар бюлетэня «Тэатральны Мінск» С. Клімковіч, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, кандыдат філалагічных навук І. Саламевіч, супрацоўнік сектара кіно Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Я. Гліндзіч, галоўны захавальнік фонду Літаратурнага музея Янкі Купалы Я. Раманоўская і старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа М. Міцюк.



Выступае начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР У. Лашкевіч.

Фота А. КАЛЯДЫ.

На вечары прагучалі ўрыўкі дакументаў з асабістых фондаў пісьменнікаў, акцёраў і кампазітараў, якія прачыталі артыст тэатра імя Янкі Купалы А. Уладамірскі і супрацоўніца архіва-музея А. Астрэйка.

Салісты тэатра оперы і балета народны артыст БССР В. Чарнабаеў, заслужаны артыст рэспублікі В. Скорабагатаў і салістка оперы І. Адзінцова выканалі беларускія народныя песні, рамансы рускіх кампазітараў і арыі з опер.

Да вечара была падрыхтавана выстаўка рэдкіх дакументаў з асабістых фондаў дзеячаў літаратуры і мастацтва і кніг з аўтографамі.

**Л. БАЛЫНІНА.**

**Аляксей РУСЕЦКІ**



## З'яднаем думкі і рукі

Прывыкайце, людзі, прывыкайце
у кватэры ці ў катэджы, хаце
да гаворкі страшнай позна й рана,
што чувацъ з дынамікаў, з экрана,
да трывогі ў голасе газет,
чуеце?—
Зямля жывая наша
можа стаць яна пустэльняй Марса
ад вулканных выбухаў ракет.
Прывыкайце, а ці страх, ці мукі,
біч хвастаты ўбачыць над сабой;
вокамгненне буры агнявой —
ні бацькоў, а ні сыноў, ні ўнукаў,
ні зярнятка, ні раллі самой.
Свет наш родны, свет зялёна-сіні,
хто ж чакае гэткае часіны,
а хто здатны жах такі цярпець?
З гэткім лёсам звыкнемся цяпер —
дык усе,
усёй зямлёй загінем.
Сілу смерці маюць ненажэры
золатам і ўладай,
іх намеры:
як не ім зямля ўся, свет—не ім—
лепей, каб на жытлішчы людскім
мёртвы пыл хістаўся ў змроку шэрым.
Быццам, людцы, нас і не было,
не рыпелі пёры і сціло,
стрэлак часу не было й не будзе;
між планет блішчыць зямлі святло
мутным вокам...
Памятайце, людзі!
Хай трывога, як набат, гудзе
за жыццё, за вечны мір штодзень
і злучае нашы думкі й рукі;
наша еднасць, міру моц расце,
хай жыве жыццё,
сыноў і ўнукаў!
Наш нядаўна пачынаўся шлях
першым крокам на Зямлі, ў Сусвеце;
Сонца свеціць нам і зоры свецяць,
у таемны клічуць нас прасцяг.
Маладосць
хіба паддасца смерці?

## Сумненне

Калі з грымотай цяжкаю вайна
ураз да неба з краю ў край паўстала
агнём крывавым, вогненным металам,—
ці ж ведаў хто,
каму і што яна
наканавала?

Не трэба німбам ушаноўваць нас,
мы, як хто мог, у час ліхі, шалёны
свой абавязак споўнілі галоўны;
і нівы, гарам крытыя не раз,
уваскрасілі
з покрывам зялёным.

Сыны і ўнукі нашыя ўзраслі,
падданыя інакшаму ўжо часу,
трывожыць ён над хмарнаю грымасай,—
пад ёй жыццё ці смерць
людзей, зямлі...
Ім адстаяць планету нашу.

Хіба дарэмна думалася мне
калісь на пераправе дымнавейнай,
што заступілі назаўжды
надзейна,
што перакрылі мы шляхі вайне
упэршыню
з часоў біблейных?

## Слава

Хто сказаў, што слава—сонца
мёртвых?
Промні славы грэюць і жывых
працавітых, смелых,
духам цвёрдых,
ёй абраных юных і сівых.

Дзесьці нехта дбае ўдзень і ўночы
як лаўчэй ступаць, хоць пакрысе,
пад яе цікаўны зірк жаночы,
засвяціцца
пры яе красе.

Можа, нейк ён спыніць яе вока
звонам слоў, дзівацкасцю прыгод,
і яна няўважнаю сяброўкай
пройдзе з ім
і абсмяе яго.

Іншы ж—і трывогі, сны і думкі
пра сваю зямлю,
ёй на карысць—
розум і агонь душы, і рукі,—
славы бляск заўжды над ім гарыць.

За такім яна і ў смутку рушыць
па шляху жалобным;
праз вякі
да яго імя схіляе ружы,
на яго сляды кладзе вянкі.

## Пчолы

У садзе пчолаў два вуллі,
як дзве дзяржавы, дзве манархіі,
сваёю працаю жылі,
нідзе ні крадзяжу, ні мафіі.

З вясны па сонцу, як лацвей,
парадак ладзілі царыцы,
насілі ношку і дзяцей
глядзелі пчолы-працаўніцы.

Ды неяк у адной з дзяржаў
шмат звонкіх трутняў развялося,
затым працоўны рой пачаў
перацiхаць, слабець пад восень.

Даведаліся той парой
пра ўсё лазутчыцы-суседкі,
і рой на рой пайшоў вайной
ужо забыўшыся на кветкі.

Няшчасныя ў напад-налёт
былі там джаламі пасечаны,
разрабаваны іхні мёд
і дзеці назаўжды знявечаны.

Разбагацелы рой вайной
заходзіўся ў шчаслівым гудзе,
пчаліны агрэсіўны рой...
То ж насякомыя,
не людзі.

## Песні

Колькі ж іх я чуў,
зляцела з губ
колькі ж іх
гітарных, патэфонных,
маршавых, вясёлых,
з меддзю труб,
з лямантам і шэптам
мікрафонным?!
Змоўклі ўсе,
і даўняя мая
спеўная
таксама састарэла,
толькі вечна
песня салаўя—
маладосці
і чаромхі белай.
Дык пакліч у гай,
на схіле год
сумнага парадуй
чалавека:
праспявай яму
на адыход,
пералётны родны
салавейка...

НАШЫ ГОСЦІ

# У ЗАЛЕ ГАСПАДЫНЯ— МУЗЫКА

Улада музыкі. Культ Музыкі, калі хочаце. Вось зусім закачамерная адзнака тэатра оперы і балета. Найперш, такога тэатра, які стала і грунтоўна працуе над творамі, прызнанымі музычна-сцэнічнай класікай, які носіць строгае званне акадэмічнага. Такога калектыву, які і гасцюе сёлета ў нас: Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Малдаўскай ССР. На яго першых гастрольных спектаклях уладарыла музыка Д. Вердзі, П. Чайкоўскага, Л. Мінкуса, Л. Дэліба, Ф. Чылеа. І ў зале адчувалася, якую прастору эмоцыям дырыжораў і аркестрантаў, артыстаў на сцэне даюць тыя спектаклі.

Аціхаюць непасрэдныя і цэласныя пачуцці, пасля спектакля ўражанні слухачоў і гледачоў робяцца, калі можна так сказаць, больш фрагментарнымі. Успамінаецца, напрыклад, як па-фатальнаму зацята і па-тэатральнаму відочна «канфліктавалі» ў аркестры пад кіраўніцтвам А. Самоілэ магутныя і яркія вердзіеўскія лейтматывы (опера «Сіла лёсу», якой адкрыліся гастролі). Успамінаецца знаёмства з операй «Адрыяна Лекуўрэр» паводле Э. Скрыба і Э. Легувэ—творам аднаго з буйных італьянскіх кампазітараў нашага стагоддзя Ф. Чылеа.

Ахінуты рамантычным, а можа, і меладраматычным вэлюмам лёс выдатнай актрысы «Камедзі Францэз» Адрыяны Лекуўрэр, жыццё якой закончылася трагічна і загадкава. Дынамічнае развіццё інтрыгі, псіхалагічна развітыя, напружаныя дуэтныя (так і хочацца напісаць «дуэльныя») сцэны. Несканчоная плынь сапраўднай італьянскай кантылены ў аркестры і ў вакальных партыях — усё гэта робіць твор, што называецца, выйгрышным для试 опернай трупы, яе салістаў.

Не толькі прафесійная засяроджанасць і добрасумленнасць, а і захопленасць вобразамі, усёй музычнай атмасферай твора Ф. Чылеа адчуваецца ў работах сталых, аўтарытэтных майстроў малдаўскай опернай сцэны: М. Біешу (Адрыяна), Т. Алёшынай (прынцэса дэ Буйон), М. Мунцяна (Маурыцыо, ён жа граф Саксонскі). Тут прыгадваеш яркую сцэну паядынку «зямной» Адрыяны з напышлівай, немаладой ужо, арыстакратычнай асобай (III карціна оперы).

Злоба, рэўнасць, трыумф помсты, збянтэжанасць ад нечаканага ўчынку, здавалася, ужо зняважанай саперніцы-камедыянткі — такое аблічча прынцэсы па-акцёрску пераканальна малюе Т. Алёшына. Нібыта бліскавіцай пракрэслівае гэтую карціну маналог Адрыяны — маральны выклік прынцэсе, «жрыцы распусты». Трагічныя інтанацыі працінаюць развітальную арыю Адрыяны (з кветкамі, якія атруціла саперніца), трызненне гераіні М. Біешу і яе па-тэатральнаму ўмоўны і сімвалічны адыход у вечнасць.

Абменьваючыся ўражаннямі ад спектакляў гасцей, мы ўспамінаем неадназначную постаць абата Шазея (А. Арча) у «Адрыяне...» Успамінаем кранальную, крохкую, безабаронную баядэрку Нікію (В. Шчапачова) у балеце Л. Мінкуса. Зазначаем адзінства стылю ў афармленні оперы Ф. Чылеа (мастакі В. Окунеў і І. Прэс), прывабную асіметрычнасць харавой мізансцэны ў фінале II дзеі оперы «Сіла лёсу» (пастаноўка Я. Платона)...

У гэтыя дні знаёмяцца з майстрамі оперы і балета Малдавіі не толькі жыхары беларускай сталіцы. Апроч канцэртаў у Мінскай вобласці, нашы госці прапанавалі два выязныя спектаклі: «Віват, маэстра!» (камічная опера Г. Даніцэці) і «Вечар старадаўніх балетаў». Прычым, спектаклі гэтыя ў мінскую афішу не ўключаны, паказваюцца яны ў Барысаве і запісаны будуць Беларускім тэлебачаннем. З часам, вядома, выйдуць у эфір.

Чэрвеньскімі вечарамі людна ля будынка на Траецкай гары: аматараў оперы і балета прываблівае сёння ўжо другая палова гастрольнай афішы малдаўскага тэатра. Пазначаны на ёй і спектаклі па творах савецкіх кампазітараў: Ц. Хрэннікава, Я. Догі, С. Картэса. І зноў жа — Д. Вердзі, П. Чайкоўскі, Д. Пучыні, Ф. Чылеа...

На пачатку ліпеня нашы госці вялікім заключным канцэртам развітаюцца з мінчанамі. Але на гэтым іх першы візіт на Беларусь не скончыцца: гастролі Малдаўскага тэатра оперы і балета прадоўжацца ў Гродне.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**





На здымках: народная артыстка СССР лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій, лаўрэат міжнародных конкурсаў М. Біешу і народны артыст Малдаўскай ССР М. Мунцян у оперы «Адрыяна Лекуўрэр»; заслужаная артыстка Малдаўскай ССР В. Шчапачова — Нікія (балет Л. Мінкуса «Баядэрка»).

Фота А. КАЛЯДЫ.

# КНІГАПІС




А. МІЦКЕВІЧ. Пан Тадэуш, альбо Апошні заезд на Літве. Шляхоцкая гісторыя з 1811 і 1812 г. у дванаццаці быліцах вершам. Пераклаў Б. Тарашкевіч. Ольштын, «Поезежэ», 1984.

**З нязмернай любові Адама Міцкевіча да роднага краю, да Навагрудчыны, дзе ён нарадзіўся і вырас, узніклі яго лепшыя творы «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», «Гражына», другая частка «Дзядаў» і інш. Да найбольш выдатных адносіцца эпапея «Пан Тадэвуш», якая справядліва лічыцца шэдэўрам не толькі польскай, але і сусветнай літаратуры. Гэты твор настолькі прыгожы, што на якой старонцы ні разгорнеш кнігу, знойдзеш столькі красы, што немагчыма ад яе адарвацца. Знойдзеш там апісанні роднага неба і роднай зямлі, нашых лясоў і палёў, народа і яго звычаяў, заняткаў і забаў, уяўленняў і вераванняў, жыцця ў палацах і ў хатах, у рабоце і ў гульні.**

**У паэме скарыстаны беларускія байкі і легенды, народная лексіка і фразеалогія. Сярод некалькіх дзесяткаў асабовых імёнаў мясцовай шляхты, якая лічыла сябе палякамі, сустракаюцца прозвішчы беларускага, літоўскага, польскага, татарскага, нямецкага паходжання. Паэт паказаў жыццё і звычаі гэтых людзей, часамі ідэалізуючы сваіх герояў. Аднак не прайшоў ён абыякава міма такіх адмоўных уласцівасцей шляхты, як яе сервілізм у дачыненні да магнатаў, суцяжніцтва і сварлівасць, схільнасць да гультаявання, п'янства, абжорства. Дастаткова прыгадаць сабе сцэны з Дабрынёва або заезд на Сапліцтва. Меў слушнасць Станіслаў Ворцэль, заўважыўшы калісь, што «Пан Тадэвуш» з'явіўся магільнай плітой, пакладзенай рукою генія на старую Польшчу.**

**Сімпатыі аўтара перш за ўсё на баку маладога Тадэвуша, адважнага змагара за вызваленне радзімы, шчырага народалюбца, які дае свабоду сялянам. Жадаючы натхніць суайчыннікаў на барацьбу з самаўладствам, Міцкевіч выказвае страсную любоў да сваёй зняволенай бацькаўшчыны і перакананасць у яе вызваленні.**

**Кіруючыся менавіта такімі меркаваннямі, узяўся Браніслаў Тарашкевіч за пераклад «Пана Тадэвуша» на беларускую мову. Зрабіў гэта на рубяжы 20—30 гадоў, адбываючы тэрмін прысудаў у турмах «вольнай і незалежнай» міжваеннай Рэчы Паспалітай. Санацыйная ўлада зняволіла яго за тое, што пасмеў выступіць у абарону культуры, роднай мовы і грамадзянскіх правоў беларусаў у панскай Польшчы.**

**У панараме поўных перакладаў «Пана Тадэвуша» на 24 мовы, апублікаваных у 76-ці выданнях, не хапала перакладу на беларускую мову, мову амаль у такой жа ступені блізкую маладому Міцкевічу, як і польская. З XIX стагоддзя, калі нацыянальная свядомасць беларусаў пачынала знаходзіць сваё выражэнне ў літаратурнай творчасці, захаваліся апублікаваныя ў друку фрагменты перакладаў «Пана Тадэвуша», зробленыя В. Дуніным-Марцінкевічам і А. Ельскім, у XX — М. Танкам і С. Дзяргаем, а таксама неапублікаваныя рукапісы поўных перакладаў на беларускую мову Б. Тарашкевіча і П. Бітэля. (Адзначым таксама, што неўзабаве выдатны твор выйдзе ў перакладзе Я. Семяжона).**

**Бадай, ніхто іншы не быў так падрыхтаваны і схільны да рэалізацыі перакладу Міцкевічавай паэмы, як Браніслаў Тарашкевіч. Такі погляд выказала калісь вялікі знаўца абедзвюх моў і творчасці Міцкевіча праф. Галіна Турска, рэцэнзуючы надрукаваны ў «Полымі» (1962 г.) урывак з першай быліцы «Пана Тадэвуша».**

**Першая поўная публікацыя гэтага твора на беларускай мове была падрыхтавана ў Інстытуце літаратуры АН БССР у 1981 годзе. Прадмову, падрыхтоўку тэксту і каментарыяў зрабіў А. Мальдзіс, рэдагаваў кнігу Ю. Пшыркоў.**

**У 150-ю гадавіну першай публікацыі славутай Міцкевічавай паэмы (Парыж, 1834 г.) у Польшчы 10-тысячным тыражом выйшла з друку чарговае яе выданне, на гэты раз на беларускай мове.**

**Ольштынскае выданне адрозніваецца ад мінскага тым, што, апрача асноўнага тэксту і каментарыяў, мае яшчэ рад важных дадаткаў. Так, у слове ад рэдакцыі высвятляюцца матывы выдання гэтай кніжкі. Вялікі, на 48-мі старонках, уступны артыкул Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай лаканічна, абгрунтавана, цікава і даступна знаёміць чытача з вобразам перакладчыка і гісторыяй Тарашкевічавага перакладу; аналізуецца творчая лабараторыя і майстэрства перакладчыка, праводзіцца моўны аналіз тэксту. Наступныя дадаткі — гэта табліцы з супастаўленнем абедзвюх версій быліц XI і XII, упамянутыя ўжо заўвагі праф. Г. Турскай пра беларускі пераклад паэмы, водгукі ў друку аб фрагментах перакладу «Пана Тадэвуша» на беларускую мову, фотакопіі і бібліяграфія. Гэтыя дадаткі, надрукаваныя на польскай мове, надаюць кнізе новыя вартасці, асабліва важныя для літаратараў, літаратура- і мовазнаўцаў.**

**Вячаслаў ВЯРЭНІЧ.**

## Сучаснасць і сучасная літаратура

**Міхась КЕНЬКА**

# ПЛЫЦЬ СУПРАЦЬ ПЛЫНІ

З таго нямногага, што мне ўдалося знайсці на тэму горада ў зборніках паэзіі, спадабаўся верш Васіля Жуковіча «Вышынёю, святлом паланіў мяне горад...», у якім таксама чалавек горада сумуе па вёсцы, але вырашаецца гэтая тэма ўжо крыху ў іншым ракурсе, з гумарам. Яго герой арыгінальна вырашае праблему:

**Зноўку радасна мне, чую песень крыніцу;**
**клічу ў госці сваіх дарагіх землякоў:**
**атрымаў я кватэру на ўзмежку сталіцы,**
**каля жаўранкаў і васількоў.**

І ўсё ж, ці не годзе ўжо аднастайных перапеваў гэтага раздваення паміж горадам і вёскай? Ёсць у іх, гэтых выхадцаў з вёскі, і іншыя клопаты, ёсць іншыя праблемы, канфлікты. Яшчэ ў дарэвалюцыйным часе Максім Гарэцкі заўважыў у жыцці і вывеў у драматычным абразку «Свецкі чалавек» такі тып, які ніколечкі не сумуе па вясковым мінулым, а пагарджае ім, стаў больш гарадскім, чым самі гарадскія. Хіба рэцыдываў гэтай хваробы, толькі ў сучаснай «мадыфікацыі», мы не сустрэнем сёння, калі бачым фанабэрыстага «гараджаніна», які ўжо забыўся на ўсё роднае, саромеецца свайго вясковага паходжання? Праўда, і гэтая тэма часам закранаецца ў сучасных творах, і наогул, пра маральныя аспекты «ўжывання» вяскоўца ў гарадское жыццё напісана больш, чым пра што іншае. Але як выглядае, часам, вясковец у такіх творах? Ён аказваецца маральна значна вышэйшым у параўнанні з «карэннымі» гараджанамі, якія паказваюцца часам ледзь не амаральнымі тыпамі: і мяшчане яны, і цынікі, і зладзеі, і блатмайстры, і наогул нічога святога за душой не маюць. Папершае, усё гэта, вядома, зусім не так, бо і з вёскі прыходзіць у горад папаўненне не такое ўжо аднароднае, спрэс высокасвядомае. Па-другое, ці дачытае той гараджанін апавяданне, у якім ён прадстаўлены ў такім непрывабным выглядзе, да канца? Ды яму проста нецікава будзе чытаць такое. А вось пра тое, як жыхар горада, хай сабе і неабавязкова той, хто ў горадзе нарадзіўся і вырас, працуе, які ён ва ўзаемаадносінах у калектыве, якія маральныя якасці ён праяўляе ў складаных сітуацыях на вытворчасці, пра гэта не напісана амаль нічога ні ў прозе, ні нават у такім чуйным да сучаснага родзе літаратуры, як драматургія. У тэатрах ідуць п'есы А. Гельмана, а свайго нічога так і не з'явілася. У чым тут прычына? Відаць, уся справа ў тым, што ніхто з пісьменнікаў не адважваецца напісаць пра завод, фабрыку, будаўнічую арганізацыю, аўтабазу і г. д. з той прычыны, што тут трэба ўжыцца ў жыццё прадпрыемства, уведаць пра ўсё, што там робіцца. А гэта можна зрабіць не ў час экскурсіі, а ў працэсе грунтоўнага вывучэння. Трэба, відаць, пабачыць усё знутры, а не збоку. А гэта цяжка, гэта звязана з нязручнасцямі.

Таму сёння і назіраецца такая аднастайнасць у тэмах, што большасць з тых, хто прыйшоў і ідзе ў літаратуру, зведала адзін шлях: вясковае дзяцінства, школа, потым інстытут або універсітэт, а далей пара гадоў настаўніцтва або працы ў раённай газеце, а потым сталіца — таксама газета або часопіс, радыё, выдавецтва, радзей аспірантура. Потым — прыём у Саюз пісьменнікаў, праца ў літаратуры. Які ж з усяго гэтага можа быць вынесены творчы багаж? Пра вясковую школу, рэдакцыю раёнкі, апошнім часам нават пра пісьменнікаў ужо напісана, хай сабе і не заўсёды так, як хацелася б, але такія творы ёсць, чытаюцца з цікавасцю. Тут аўтарам не трэба нічога шукаць, прыдумваць, бо і сюжэт і мастацкія дэталі можна ўзяць, што называецца, «з галавы», са свайго жыцця.

У адным са сваіх артыкулаў на літаратурныя тэмы Гі дэ Мапасан пісаў пра адну прыкмечаную ім з'яву так: «Што ж датычыць нашых пісьменнікаў-пачаткоўцаў, дык замест таго, каб павярнуцца тварам да жыцця і з прагнай цікаўнасцю глядзець навокал сябе, палка радуючыся або смуткуючы, у залежнасці ад свайго тэмпераменту, яны глядзяць толькі ў сябе, назіраюць толькі сваю душу, сваё сэрца, свае інстынкты, свае вартасці і недахопы і аб'яўляюць, што раман у рэшце рэшт павінен быць толькі аўтабіяграфіяй».

Ці не назіраем мы гэтую з'яву ў сучаснай беларускай літаратуры, прынамсі ў творчасці тых, хто робіць свае першыя крокі ў красным пісьменстве? З чым прыходзяць у літаратуру маладыя ў апошняе дзесяцігоддзе, які багаж жыццёвага вопыту маюць і якія тэмы прапануюць?

Выступаючы на сустрэчы з маладымі пісьменнікамі ў Каралішчавічах у снежні 1983 года, Аляксей Карпюк заклікаў іх «рабіць сваю біяграфію», жыць у гушчыні падзей, не баючыся ніякіх цяжкасцей, бо толькі такое жыццё дасць ім багаты матэрыял для творчасці.

Мабыць, не выпадкова пісьменнік загаварыў аб неабходнасці мець «за душой» багатыя жыццёвыя ўражанні, вопыт жыцця ў працоўным калектыве. Бо дужа ж непакоіць тое, што, апісаўшы ў творах сваё дзяцінства, школу, першае каханне, першы пацалунак, тыя, хто прайшоў гэты кароткі шлях са школьнікаў у пісьменнікі, не зведаўшы, што такое праца, не ўсе знаходзяць у сабе сілы пераступіць мяжу, выйсці на новыя тэматычныя абсягі. Хто не здолеў — пачынае перапяваць ранейшае, паўтарацца, у лепшым выпадку звернецца да гістарычных сюжэтаў, бо разбірацца ў архіўных сховах лягчэй, чым у праблемах сучаснасці. Паэты могуць пераключыцца на цыклы «з падарожжаў», «з курортаў», урэшце заняцца перакладамі. А руху наперад — няма.

Гэтая тэндэнцыя — ісці ад свайго «я», карыстацца прынцыпам аўтабіяграфізму — асабліва заўважаецца ў літаратуры для дзяцей. Нядаўна Галіна Каржанеўская вельмі слушна заўважыла ў артыкуле пра творы ў нашых дзіцячых часопісах, што дзяцінства, апісанае многімі з тых, хто піша для дзяцей, гэта іх уласнае дзяцінства. Другі і трэці раз пісьменнік прыходзіць у дзіцячую літаратуру часам тады, калі ў яго з'яўляюцца свае дзеці, потым унукі. У Мінску, іншых гарадах і гарадскіх пасёлках пасталела пакаленне дзяцей колішніх выхадцаў з вёскі, яно само ўжо мае ўласных дзяцей. Пра іх і для іх, карэнных гараджан, трэба пісаць, інакш літаратура страціць іх як чытачоў. Так, яны чытаюць і будуць чытаць пра вайну, пра рэвалюцыю, прыгодніцкую літаратуру, а вось шматлікая літаратура пра вёску, пра тых жа вясковых гараджан іх цікавіць значна менш. У гэтым я меў магчымасць пераканацца, калі выкладаў старшакласнікам беларускую літаратуру ў дзвюх школах абласнога цэнтра. Першая з іх стаяла на ўскраіне, вучні былі пераважна з «сельгаспасёлка», з дамоў «індывідуальнай забудовы». Яны хоць ведалі, што такое хата, праца на зямлі, былі бліжэйшыя да прыроды. Таму да іх было лягчэй данесці творы на вясковую тэматыку, напрыклад, «Новую зямлю» Якуба Коласа.

У другой жа школе, што стаяла ў самым цэнтры, вучыліся ў большасці дзеці службоўцаў, вайскоўцаў, сярод іх бацькоў амаль не было такіх, якія мелі сувязь з вёскай. І вось гэтым старшакласнікам беларуская літаратура давалася цяжэй, бо ўсё ж сюжэт сюжэтам, а твор не даваў ім нечага такога, што абуджала б пэўныя асацыяцыі са свайго жыццёвага вопыту. Памятаю, было абуджэнне цікавасці, калі вывучалі вершы «Спадчына», «Алеся», якія яны ўжо чулі ў выкананні ВІА. Тут хоць тая сувязь была, што гэтыя творы прайшлі праз свядомасць, аказаліся звязанымі хоць бы і так з нечым блізкім іх духоўнаму свету.

Відавочна, што дзецям, ды і нам, дарослым, было б цікава прачытаць пра жыццё сучасных падлеткаў, юнакоў, а не пра тых дзяцей «шматгадовай даўнасці», якія нарадзіліся паводле ўспамінаў пра дзяцінства і юнацтва самога пісьменніка. Вось з'явіліся «Прыгоды Гарбузіка і Бебешкі» Эдуарда Скобелева. Хай сабе і ў казцы, але там жывуць сённяшнія дзеці. Герояў кнігі добра прынялі чытачы. Давялося бачыць, як у двары шматпавярховага дома малыя гулялі ў Гарбузіка і Бебешку. Э. Скобелеў напісаў і кнігу для больш сталага ўзросту — пра навучэнцаў ПТВ — «Выпускнікі». Пра старшакласнікаў гарадскіх школ напісалі аповесці «Вяртанне» і «Пешшу праз Галактыку» Валянцін Тарас і Яўген Радкевіч. Пра жыццё малодшых школьнікаў напісаў ужо многа Уладзімір Машкоў. Можна назваць яшчэ некалькі прозвішчаў. Заўважым, што пераважна гэта пісьменнікі-гараджане.

Калі ж успомніць, што пасля «Атлантаў і карыятыдаў» Івана Шамякіна напісана аб жыцці сучаснага горада для дарослых, то прыгадваецца нямногае. «Заводскі раён» Арнольда Каштанава напісаны чалавекам, які, перш чым выступіць з мастацкім творам, працаваў на заводзе. Іншым шляхам, чым «філалагічнае пакаленне» пісьменнікаў, прайшоў Васіль Гігевіч, і гэта адбілася на тэматыцы яго твораў, дзе ёсць і вёска і горад. Можна назваць творы яшчэ некалькіх аўтараў, у якіх хоць у якойсьці меры закранаецца тэма не столькі маральна-побытавых праблем, звязаных з жыццём гарадскіх жыхароў, колькі тэма працы. Але, бадай, кожны раз аўтар такога твора абапіраецца таксама на пэўныя падзеі з уласнага жыцця, калі яму хоць бы і нядоўга, але давялося мець непасрэднае дачыненне да той ці іншай рабочай, інжынернай прафесіі.

Прыгадваецца эпізод з біяграфіі Аляксандра Купрына, калі той, прачытаўшы Максіму Горкаму сваю незакончаную яшчэ аповесць «Паядынак», сказаў, што хоча павесці далей свайго героя па тым шляху, які прайшоў ён, аўтар. Горкі адказаў на гэта, што трэба паказаць тыповы лёс царскага афіцэра, бо не кожны з іх станавіўся пісьменнікам. І дадаў: «У рэчышчы аўтабіяграфічнай плыні плыць лёгка. Паспрабуйце супраць плыні!» У дачыненні да сённяшняга дня гэта азначала б выхад на актуальныя, новыя, у пэўнай ступені нетрадыцыйныя для пісьменніка, нават для літаратуры тэмы.

У матэрыялах красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС звяртаецца асаблівая ўвага на паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, інтэнсіфікацыю эканомікі, рост эфектыўнасці вытворчасці і пры гэтым, у першую чаргу, актывізацыю чалавечага фактару. Мастацкая творчасць не можа зараз не адлюстроўваць таго карэннага павароту да новага, які адбываецца ў жыцці краіны. Паказаць у рэальных жыццёвых абставінах, працоўнай дзейнасці сучаснага рабочага, інжынера, вучонага — вось што патрэбна зараз. Калі ўжо быць шчырым, то трэба прызнаць, што і сучаснага хлебароба ў літаратуры яшчэ як след не паказалі. Захапіўшыся тэмай міграцыі сельскіх жыхароў, паказваючы жыццё тых, хто падаўся ў горад, амаль забыліся на тых, хто застаўся, хто сумленна працуе, вырошчвае хлеб.

Вядома, напісаць мастацкі твор складаней, чым нарыс, і часу на гэта патрэбна значна больш. Няхай сабе мы ўбачым у кнігарнях новыя, актуальныя кнігі пра сучаснасць не так хутка, як хацелася б, але карэнны пералом павінен адбыцца.

Што да мяне, дык я вельмі хацеў бы часцей сустракаць на старонках нашых літаратурных часопісаў, кніг жыццё людзей горада. Няхай сабе Таіса Грамадчанка і яшчэ хто з крытыкаў сцвярджаюць, што «тэма горада» ў беларускай літаратуры ёсць, але ўсё ж — як яна прадстаўлена? Вельмі і вельмі аднабакова, павярхоўна, спрошчана. Мне хацелася б, хоць я сам нарадзіўся і вырас у вёсцы, прачытаць не пра жыццё таго настальгічнага гараджаніна, пра якога яшчэ ў даваенныя гады пісаў Валерый Маракоў:

**Адной нагой стаю я ў вёсцы,**
**Другой — на вуліцах шумлівых гарадоў.**

Пра такога гараджаніна, якога так хораша паказаў Міхась Стральцоў, а зараз — апяваюць яго паслядоўнікі, у прозе і ў вершах таксама трэба пісаць, але інакш.

**ПАДЗЕІ І ДАТЫ**

*Да 80-годдзя з дня нараджэння Петруся Броўкі*



Паэзія Петруся Броўкі мне спадарожнічае з дзяцінства. Сёння цяжка нават прыпомніць, калі ўпершыню сустрэўся з яго вершамі. Ведаю, аднак, што знаёмства адбылося яшчэ ў пачатковай школе. «Надзя-Надзейка». Гэту баладу чытала нам настаўніца. Клас прыціх, да слёз суперажываючы трагічнаму лёсу дзяўчыны — Надзі-Надзейкі.

Моцна ўзяла за сэрца і выдатная балада «Брат і сястра». Памятаецца яе змест — бацька вяртаецца з далёкага паходу дамоў і не застае сваіх дзяцей, якія загінулі ў барацьбе з ворагам. Самотны, ён у знак памяці аб іх, прыносіць з лесу клёнік і рабіну і садзіць іх каля хаты, «карэнні паліўшы бацькоўскай слязою».

**Ты ж бачыў увосень, як я**
**палымнею...**

Пасля зімы да герояў балады вяртаецца «на зялёных крылах» вясна. На сваё запытанне — «ці ў сэрцы вясёла?» — бацька чуе:

**— Нам добра сягоння, з табою**
**гамонім,**
**Цябе мы ад спёкі сабою**
**заслонім...**

Вось так у маё сэрца заплыла паэзія Петруся Броўкі, закрануўшы самыя тонкія, эмацыянальныя струны душы. Наперадзе былі сустрэчы з новымі яго творамі, а таксама — асабістае знаёмства.

Маральныя і эмацыянальныя адносіны да пісьменніка і яго твораў грунтуюцца, як правіла, на пэўнай супольнасці жыццёвага лёсу і духоўнага вопыту. Прыгажосць і абаяльнасць яго

# ПАЭТ КУПАЛАЎСКАЙ ШКОЛЫ

*Надышла восень, загулі халодныя вятры.*

**Пытаецца бацька**
**У любімай дачушкі:**
**— Дзяўчынка-рабінка**
**з уборам чырвоным,**
**Напэўна, дачушка, сягоння**
**сцюдзёна? —**
**Да нізкай хаціны**
**Пад крык жураўліны**
**Схіліўшы галіны,**
**Шапнула рабіна:**
**— Ой, татачка, тата, не жалься**
**багата,**
**Бо цёпла мне, тата, ля**
**роднае хаты.**
**Нагрэлася я ля агнёў**
**партызанкай.**
**Ты глянь, я чырвона і ўвечар**
**і ўранку...**

Школьныя вокны выходзілі ў поле, на якім сям-там, на межах, стаялі ўкрытыя дробным інеем адзінокія ігрушы-дзічкі, нібыта некуды спяшаліся і на шляху іх заспела восень.

Настаўніца працягвае чытаць:

**Па белай дарозе**
**Прыбеглі марозы,**
**Мятлюга задзьмула,**
**Зіма агарнула.**
**Зіма закавала**
**Ручайкі ў льдзіны.**
**Пытаецца бацька**
**У любага сына:**
**— Каторы дзянёчак мароз,**
**як званочак,**
**Напэўна замерз ты,**
**кляночак-сыночак? —**
**На шэрым світанку**
**Прынікшы да ганку,**
**Пад ветраў гамонку**
**Клён выказаў звонка:**
**— Не бойся, мой тата,**
**не страчу я сілы,**
**Зіма цёплай коўдрай мне ногі**
**накрыла.**
**Нагрэўся я ў бойках, цяпер**
**не скалею.**

паэзіі ва ўсёй паўнаце іх зместу я зразумеў не адразу. У дзяцінстве, натуральна, кантакт з творчасцю П. Броўкі не ўсведамляўся так асэнсавана і глыбока, як у дарослую пару. Але ўсе дарослыя, як кімсьці было сказана, «спачатку былі дзецьмі, толькі мала хто з іх пра гэта памятае». А памятаць, відаць, трэба. Дзяцінства на *вясковым улонні прывучае* чалавека глыбей адчуваць патаемнае жыццё прыроды і сваю прыналежнасць да яе шматстайнага свету.

Паэзія аўтара «Надзі-Надзейкі», багатая на патрыятычныя пачуцці, мне здаецца, глыбока адлюстроўвае сувязі беларуса са светам прыроды, сярод якой праходзіць усё яго жыццё і працоўная дзейнасць. У гэтым сэнсе П. Броўка адчуваў сябе вучнем Янкі Купалы.

Лясны гушчар у часе вайны ахоўваў і народных мсціўцаў, і мірнае насельніцтва. Нездарма кажуць: «лес наш — лёс наш». Пра гэта ў П. Броўкі знойдзем шмат вершаў, у якіх адлюстравалася быццё і лёс беларускага народа.

Творчае развіццё сапраўднага паэта менш за ўсё бывае падобным на прамую лінію. Уздым нярэдка чаргуецца са спадамі. Не ўсё мне падабалася і ў вершаваных зборніках П. Броўкі на рубяжы 40—50-х гадоў. Зрэшты, не аднаго яго, а ўсёй, можна сказаць, нашай паэзіі. Аднак з сярэдзіны 50-х гадоў яна ізноў пачала набіраць вышыню. У 1959 годзе выходзіць цудоўная кніга паэта «Пахне чабор», праз год — «Далёка ад дому». Абедзве вылучаліся спавядальнасцю, блізкасцю да біяграфіі аўтара, да таго, чым жыў сучаснік.

Гэтыя кнігі, а таксама зборнік «А дні ідуць...», адзначаны ў 1962 годзе Ленінскай прэміяй, заваявалі вялікую папулярнасць. Паэта часта запрашалі на вечары, на сустрэчы з чытачамі. На адной з такіх сустрэч у Мінску мне і пашчасціла з ім пазнаёміцца.

Я сказаў Пятру Усцінавічу, што мне падабаецца ў яго апошніх кнігах — вершы, паэма «Голас сэрца». Яму, відаць, прыемна было пачуць добрае слова ад чытача.

— Любіце паэзію? — пацікавіўся ён.

— А як жа інакш! Паглядзіце, цяпер жа столькі маладых...

— Маладых — гэта добра, а я вам скажу: чытайце Купалу. Навейшага за яго няма!

Я не стаў спрачацца, хоць у душы не вельмі быў згодзен з катэгарычнасцю такога супастаўлення. Пётр Усцінавіч гэта бачыў.

— Так, так. Купала не такі просты, як часам здаецца; ён — глыбокі, ёмісты...

— Дзіва што! «Магутнае слова, ты, роднае слова!» — успомніў я пачатак аднаго з купалаўскіх вершаў.

— То, можа, як сустрэнемся, пагамонім? Прыходзьце ў саюз, заўтра я якраз там буду.

Мяне ўжо тады многае цікавіла ў творчасці Броўкі і іншых беларускіх пісьменнікаў. Цікавілі таксама падрабязнасці літаратурнага працэсу, асабліва даваеннага перыяду. Шмат чаго хацелася ведаць. А хто пра гэта мог расказаць лепш за Пятра Усцінавіча?

Ён добра ведаў і 20-я, і 30-я, і пасляваенныя гады.

У адным з артыкулаў П. Броўка пісаў: «Я ўспамінаю, на жаль, ужо далёкія гады маёй маладосці, тыя самыя 20-я гады, якія *былі* часам буйнага кіпення літаратурных сіл, што тады нараджаліся, часам вялікай мастацкай разнастайнасці. Праўда, разнастайнасць гэту не трэба і перабольшваць. Яна непараўнальная з сягонняшняй; у 20-я гады моцна давала сябе адчуць ніверліроўка пад агульны стыль, «паэтычны універсалізм» (паводле ўдалага выразу аднаго нашага беларускага крытыка)».

Што ён меў на ўвазе?

Гаворка, па ўсім відаць, ідзе пра такое важнае пытанне эстэтыкі 20-х гадоў, як суадносіны індывідуальнага і масавага. Менавіта ў масавым паэты шукалі эстэтычны ідэал і стыль часу — і гэта *было* заканамерна: такое заданне давала сама эпоха. Горш тое, што ідучы за масавым, яны часта ігнаравалі асобнае, канкрэтнае, не выкарыстоўвалі асабісты вопыт.

Пётр Усцінавіч з уласцівым для яго гумарам расказаў пра аднаго з малавядомых паэтаў таго часу — Міхася Глушчука, які акуратна наведваў кожнае пасяджэнне паэтычнай секцыі, усе вечары ў Саюзе пісьменнікаў. Слухаў вершы, якія чыталі самі паэты. Любіў каменціраваць. Яго каментарыі, звернутыя да аўтараў, былі двух відаў: «глыбока крануў» або «неглыбока крануў». І іх ён вымаўляў уголас — каб чулі суседзі, — картавячы пры гэтым: «неглыбока клянуў».

Сам Міхась быў аўтарам аднаго кароткага верша і пры зручным выпадку абавязкова яго чытаў:

**Тысяча дзевяцьсот**
**васемнаццаты год.**
**Камсамол рушыў у паход.**
**Упярод,**
**упярод,**
**упярод!**

Пётр Усцінавіч заўсёды з гумарам ўспамінаў гэты «верш».

— А ўвогуле, — дадаваў ён, — у 30-я гады было шмат цікавых паэтаў — Валодзя Хадыка, Аркадзь Куляшоў, Пятро Глебка, Аляксей Зарыцкі, хораша пачыналі Пімен Пан-

**КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ**

# КАЛАСУЮЦЬ ХАРАСТВО І ЛАСКА

Да гэтай кніжкі слова «рэцэнзія» не надта пасуе. Як не пасавала б, скажам, электрычнае святло ў прасторным пакоі, шчодра залітым веснавым сонцам, калі застаецца толькі найшырэй расхінуць вокны — няхай напаўняецца жытло свежасцю і чысцінёй. А недзе там, на пакатым, падлескавым схіле лясное рачулкі, паміж цыбатых ляшчынін, алешын зазіхацелі сінімі вочкамі пралескі.

*Сыночак маленькі, ты*
*ручку мне дай,*
*Цябе павяду я ў нязведаны*
*край...*

Затым яшчэ адзін, другі радок і радуйся, чытач, адкрыццю, любуйся неспадзяваным, дасюль незаўважным цудадзействам, наталяй сасмаглую душу сакавітым матчыным словам:

Глянь, жыта красуе
на ўзгорку крутым,
Русалкі-казыткі хаваюцца
ў ім,
А зайчык, прысеўшы
ля самай мяжы,
На жабкі міргае: «Дзе я,
не кажы».

З чаго пачынаецца радзіма? Калі б мяне запыталі, папрасіў бы, замест адказу, паслухаць:

На лузе зялёным пан бусел
стаіць,
А кнігаўка ўецца і просіць:
піць—піць!
Шнур гусак на сонцы
бліснуў, закрычаў,
Спусціўся і ў лозах-чаротах
прапаў.

І далей, не супыняючыся, да апошняга шматкроп'я:

Па чыстай, празрыстай
азёрнай вадзе
Лілея свае карагоды вядзе...
Камарыкі роем лявоніх
скачуць...
Ля берага вербы хістаюцца,
плачуць...
Чаго яны плачуць? Ты
сэрцам згадай...
Сыночку маленькі, ты
ручку мне дай...

Вершу за добрых шэсцьдзесят. А які ж ён малады, прыгожы, пявучы! І застанецца такім жа доўга, як доўга наканавана беларусам весці ў агульначалавечым хоры сваю светлую песню.

«Тады вось маленькім бяззродным птушкам павінны памагчы людзі, павінны памагчы, каб аддзячыць тую велізарную працу, якую птушкі выконваюць на працягу вясны і лета, ачышчаючы нашы сады ад шкодных казюлек, вусеняў і мошак... І кожны, хто мае садок, таксама павінен аб птушках парупіцца»...

Ці не з такога вось глыбокага ўражання, зароджанага шчырай, незнарочыстай думкай творцы, другому, агульнапрызнанаму пісьменніку захацелася параіць сябрам па пяру: пішыце для дзяцей так, як для дарослых і нават лепш. Калі ж заходзіць гутарка пра ўзросты, можна толькі пашкадаваць: з інтарэсамі ні дзяцей, ні бацькоў самае «масавае» беларускае выдавецтва гэтым разам палічылася не вельмі. Дванаццаць тысяч — увесь тыраж. У Зоські Верас асабістых, даўніх сяброў, як давёў у пасляслоўі Янка Саламевіч, набярэцца не менш, і тыя цяпер спяшаюцца да аўтара з просьбамі дапамагчы набыць доўгачаканую кнігу, бо ў кнігарнях яе цяжка дастаць. Як амаль не дастаць кніг Адама Мальдзіса, Генадзя Каханоўскага, Рыгора Родчанкі, калі згадаць толькі пра некаторыя з нядаўна выдадзеных твораў.

І яшчэ аб адным. Трэба, відаць, нарадзіцца мастаком Міхасём Басалыгам, каб харашыню мілагучнага слова пераказаць не менш узрушана, дасканала колерам і графічнай лініяй. Гляджу замілавана на вокладку, ахопленую з беражкоў знаёмай лямовачкай слуцкага пояса і чую, — цяплее на сэрцы ад глыбокай удзячнасці да творцы-паэта, творцы-мастака. Ці не ён гэта — цвяток радзімы васілька з пышных персідскіх узораў вяртаецца на зарунелы палетак беларускага вольнага поля? На той самы палетак, дзе сярод буйное збажыны народнага духу каласуе слова хараства і праўды, пасеянае з рупнай сявенькі Людвікі Сівіцкай-Войцік, сагрэтае шчодрым святлом і цяплом дачкі народа — Зоські Верас.

**Аляксей КАЎКО.**

Масква.

З. Верас. Каласкі. Вершы, апавяданні. Мінск, «Юнацтва», 1985.

# ЁСЦЬ ПАД СОНЦАМ ДЗВЕ РАКІ...

Гэтая невялічкая, усяго каля паўтара друкаванага аркуша, кніжка з лаканічнай, выразнай назвай «Пазіцыя» выйшла не ў нашым беларускім і не ў цэнтральным выдавецтве. Нарадзілася яна ў далёкім Горкім, у Волга-Вяцкім кніжным выдавецтве. Але, тым не менш, яна вартая таго, каб пра яе ведаў наш беларускі чытач.

чанка, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка... і Купала, Колас!

Мы разам прыгадваем знаёмыя імёны, кнігі, вершы... З Петрусём Броўкам заўсёды цікава гаварыць, здзіўляешся самабытнасці яго думкі, ацэнкі, сімпатый. Яму да ўсяго была справа, і бачылі яго заўсёды ў хадзе, у руху, у заклапочанасці. А як ён дапамагаў моладзі — пра гэта можна было б напісаць асобна. Многія яму ўдзячны!

Пётр Усцінавіч, як ужо гаварылася, шчыра любіў беларускую прыроду, асабліва лес. Неяк пры сустрэчы, помніцца, Пётр Усцінавіч надта абураўся паводзінамі турыстаў, якіх ён сустрэў каля Ждановіч. Здаравенныя хлопцы глуміліся над прыродай, псавалі лес.

— Выйшлі з аўтобуса, ссеклі, разумееш, чатыры маладзенькія сасонкі касцёр паліць. Я пачаў іх сарамаціць — дзе там! Доўга давялося ім тлумачыць...

Нехта іншы, напэўна, абышоў бы бокам, не стаў бы звязвацца з гэтымі «турыстамі», а вось Пётр Усцінавіч палічыў сваім абавязкам умяшацца, каб заступіцца за безабаронную прыроду.

Грамадзянскасць у актыўным яе выяўленні — гэтым была прасякнута ўся яго натура.

З красавіка 1972 года за выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць П. У. Броўку было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Падзея, хвалюючая для ўсёй грамадскасці! Але, відаць, найбольш быў усхваляваны сам герой — Пётр Усцінавіч. Я гэта адчуў па яго званку.

— Чыталі?

— Дзіва што. Віншую з заслужана высокім званнем!

— Але ж адказнасць якая! Ведаеце, пра што я падумаў— гэта ж учора аддаў у «ЛіМ» дванаццаць вершаў, а сёння — такая падзея...

— Будзем чытаць, Пётр Усцінавіч, вашу падборку. Свежыя вершы, якраз дарэчы!

— Не, ведаеце, я, відаць, адзін верш здыму.

— Нашто?

— Не той узровень.

— Як? — не адразу зразумеў я.

— А так — яшчэ калі б не званне, то хай сабе, а цяпер не. Здыму.

Я ажно падзівіўся гэткаму рашэнню знакамітага паэта. Падумалася: што значыць сапраўдны паэт!

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ.**

**Пятрусь БРОЎКА**

## Дням новым песня

У жыцці мы сягоння вольныя
І звініць слоў гарачых рассып,
Дык заграй-жа гармонік лявоніху!
Дык прырэж-жа на ўсе галасы!

Праплыло, знікла гора з бядою,
Праплыло, нібы хвалі Дзвіны.
І вясною, як май маладою
Мы спаткалі прыгожыя дні.

Іскры золата дзень парассыпаў
На полі, на запылены брук...
У прыгажосці ружова-агністай
Рань радзіла другую зару.

Дык спявайце зялёныя сосны!
Дык шумі ты над рэчкай чарот!
Заплятуць нечаканыя вёсны
Нашы думы ў вянок пазалот...

Развіталіся з вёскай лугамі,
Развіталіся ранняй вясной...
Знаю: хутка стальнымі плугамі
Мы шырокай прайдзём баразной...

Дык спявай!.. Нам сягоння весела!
Дык гармонік, лявоніху грай!
Раскідай салаўінымі песнямі
Нашу радасць у сінюю рань!

Полацк, 1926 г

## Аб сабе

Бярозкі!..
любыя бярозкі,
вы зноў хістаеце чупрынай
там на палёх
радзімай вёскі
у шэпце ветраў
ля даліны.

Вы зноў
вітаеце прыгожасць
вясны з вішнёваю усмешкай,
а я ў жыццёвым карагодзе
згубіў да поля
свайго сцежкі.

А я адзін
вось тут стаю
на гэтай
гораду панэлі
і патаемны шум лаўлю
будынкаў хмурых,
пасівелых.

І тут я...
першы пакахаў
зірк незнаёмае дзяўчыны;
І сэрца гнецца далавах,
кіпіць ў нязнанай гарачыні.

Яе...
вось тут я пакахаў,
а пра яе
зусім ні знаю.
У кветках залатога дня
сваё ёй сэрца расхлістаю.

Мама!
ты можа думаеш, што я
забыў цябе
і ўжо пакінуў.
Дык знай, ты, родная мая,
што ты заўсёды, ў сэрцы сына.

Я думаю
вось тут цяпер
аб тэй чарнявенькай дзяўчыне,
а роем думкі ў галаве
ткуць залацістыя тканіны.

Ты выйдзеш, мама, да дарожку
дзе слёзы
сыпала мне ўслед...
і бвдзеш доўга стаяць моўчкі,
з пяшчотнай думкай аба мне.

Матуля родная,
ты ў слёзах
дзён шчасця будзеш марыць мне
і сына роднага прыгожым
не раз убачыш ўва сне.

А каб я мог
табе, матуля,
пра ўсё жыццё сваё сказаць,
ты-б знала як сыночка туліць
тых неабсяжных вуліц гладзь.

Ты-б знала мо'
чаму я кінуў
палі
і гушчы стомкіх сосен
і ты мне родная сказала б
спяяць мо' песеньку на ростань.

●

Я так люблю
заход ружовы
і промняў
залацістых куль.
А больш люблю
раскат сталёвы
і вуліцы нязмоўчны гул.

Дык вось таму
я не прыду
туды, дзе рос
і дзе радзіўся,
бо для мяне
радзіма тут,
дзе праца з песняю
зліліся.

г. Полацк, 1927 г.

**Пятрусь Броўка пачаў творчую дзейнасць у 1926 годзе. У газеце «Чырвоная Полаччына» за 18 жніўня быў апублікаваны першы верш «Ой, не шапчы бярозка...» На працягу двух гадоў (з жніўня 1926 года па жнівень 1928 года, калі паэт пакідае г. Полацк і едзе вучыцца ў Мінск) ён актыўна супрацоўнічаў у гэтай газеце, шмат друкаваўся і прымаў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы да друку літаратурна-мастацкіх дадаткаў-альманахаў «Наддзвінне» (1926), «Росквіт» (1927), «Зарніцы» (1928). У гэтых альманахах і газеце змешчана каля 30 яго вершаў. На жаль, ніводны твор з надрукаваных у газеце «Чырвоная Полаччына» і альманахах не ўвайшоў у даваенныя зборнікі паэта, і толькі некалькі з іх («Ой, не шапчы, мая бярозка...», «Залатымі зоркамі...», «Не буду я стаяць на раздарожжы...», «...Майскім раннем я вас пакідаў...») паэт уключыў у першае, найбольш поўнае выданне — «Выбраныя творы» (1947) — і наступныя Зборы твораў.**

**Вершы ранняга перыяду розныя па зместу, форме і мастацкіх якасцях. Але яны маюць бясспрэчную каштоўнасць як гістарычны і мастацкі дакумент сваёй эпохі, бо значна пашыраюць чытацкае ўяўленне пра пачатковы этап паэтычнай дзейнасці П. Броўкі, яго творчыя задумы і ідэйна-мастацкія пошукі.**

**Э. ЗОЛАВА.**

# МАЦІ ПАЭТА

**Улетку 1960 года працаваў я ў доме творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах. Быў там і Пятрусь Броўка. Перад гэтым я прачытаў яго паэму, з якой даведаўся, што маці паэта Алена Сцяпанаўна спалена ў печы Асвенцімскага крэматорыя.**

Поўнымі гора, пакуты вачыма
Клікаў цябе між дратоў Асвенціма.
Толькі вятры мне адказвалі гулам,
Як ні гукаў я, ты не пачула...

**У 1965 годзе адзначалася 60-годдзе з дня нараджэння народнага паэта. На юбілейнай вячэры Пётр Усцінавіч пазнаёміў мяне са сваёй стрыечнай сястрою Настассяй Юльянаўнай Пярэдня, былым вязнем Асвенцімскага лагера смерці, якая была арыштавана фашыстамі 11 ліпеня 1943 года разам з Аленай Сцяпанаўнай. Даведаўся, што іх разлучылі ў першыя дні зняволення, што пра смерць маці паэта яна нічога не ведае.**

**Сёлета наш друк і радыё ў канцы студзеня адзначылі саракагоддзе з дня вызвалення Асвенціма. У гэты час я зноў знаходзіўся ў Каралішчавічах. Прынесла нам свежыя газеты работніца дома творчасці Соф'я Волах. Яна расказала мне, што яе маці Ніна Аляксандраўна таксама была вязнем гэтага ж лагера смерці і нават жыла ў адным бараку разам з маці Петруся Броўкі Аленай Сцяпанаўнай.**

**У сонечны майскі дзень я завітаў у вёску Пуцілкавічы, зазірнуў у новы домік, у якім неўзабаве будзе адкрыты філіял музея народнага паэта. Побач на пагорку, дзе калісьці стаяла хата бацькоў Петруся Броўкі, узвышаецца помнік Алене Сцяпанаўне Броўка. А ў нізіне, каля рачулкі, жыве ў невялічкім доміку Настасся Пярэдня, былая асвенцімская нявольніца, з наколатым на руцэ нумарам 61579. Цікаўлюся, як жыве Настасся Юльянаўна, ці не знайшліся дзе-небудзь яе знаёмыя па Асвенцімскім лагеры.**

**— Гналі нас у зняволенне тысячамі, а вярнуліся дадому толькі адзінкі,—расказвае яна. — У Асвенціме мяне пасялілі ў барак з жанчынамі, якія мелі малых дзяцей. Аднойчы малых адабралі і пагналі ў іншае памяшканне. Медыкі аглядалі худзенькіх дзетак. У майго пяцігадовага сыночка Алеся была павышаная тэмпература. Яго голенькага аблілі халоднай вадой і адпусцілі. Праз суткі хлопчык памёр. Кожным досвіткам уздоўж баракаў праходзіла грузавая аўтамашына. У яе выносілі памёршых за ноч людзей.**

**Анастасся Юльянаўна выцірае слёзы...**

**Назаўтра я паехаў у вёску Касары. Адтуль трапіў у Дубінец, дзе жыла Ніна Аляксандраўна Волах.**

**Тут усяго дванаццаць хат. Вёсачка патанае ў зеляніне яблынь, ліп і клёнаў. Сустрэў групку жанчын, якія толькі што выгналі кароў на пашу. Пытаюся, дзе жыве Ніна Аляксандраўна. Жанчына з невялічкім хлопчыкам-унукам, усміхнуўшыся, сказала:—Я ёю і буду.**

**Дома яна пазнаёміла мяне са сваім мужам, з дачкою і зяцем, з унукам. А неўзабаве падзялілася ўспамінамі пра страшнае мінулае:**

**— Мне было ўсяго 14 год, калі фашысты спалілі нашу лясную вёсачку Карчы. Частку дарослых мужчын расстралялі. Мяне разам з сястрою, братам і іншымі сваякамі пагналі ў былыя салдацкія казармы Лепеля. Два дні я нічога не ела. Бачу, што побач жанчына нешта бярэ пальцамі з далоні і кладзе ў рот. Глянула яна на мяне добрымі вачыма і кажа:**

**— На і табе, дачушка, крышку жытніх зярнятак. Добранька жуй і прагоніш голад.**

**Неўзабаве я даведалася, што гэта маці беларускага паэта Петруся Броўкі. З Лепеля нас павезлі ў Віцебск, там неўзабаве загналі ў таварныя вагоны і павезлі ў Асвенцім. Сядзела я разам з бабусяй Аленай, яна туліла мяне да сябе, як дачку.**

**У Асвенціме нашу групу праз некалькі дзён загналі ў газакамеру, і зверху праз фарсункі лінуў атрутны дождж. Мы падалі на падлогу, трацілі прытомнасць. Пасля пачулі крык наглядчыка, што загналі ў газакамеру не тых, каго трэба. Адчынілі дзверы, і тыя, што засталіся жывыя, пачалі выходзіць на лагерны двор.**

**Я апынулася разам з Аленай Сцяпанаўнай. Спалі з ёю на адных нарах без пасцелі. Кармілі нас вельмі дрэнна. Давалі па 200 грамаў у суткі аржанога, выпечанага з апілкамі хлеба і адзін раз у дзень нішчымны суп.**

**Аднойчы нас выгналі на праверку, і кожнага дзесятага гналі на смерць у крэматорый. Мне выпаў цяжкі лёс, я была дзесятай. Алена Сцяпанаўна абняла мяне і сказала, што я маладая, што мне трэба яшчэ жыць, і выйшла на пляцоўку смертнікаў. Так памерла маці паэта П. Броўкі, вершы якога я памятала з дзяцінства.**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

Вартая па некалькіх прычынах.

Па-першае, яе аўтар паэт Генадзь Бядняеў — гутарка ідзе пра зборнік вершаў, — беларус па паходжанні, родам з вёскі Мазолава, што пад Віцебскам. Як паведамляецца ў анатацыі і відаць з некаторых вершаў, пасля вайны ён, удзельнік Вялікай Айчыннай, застаўся ў Горкім, вучыўся ў ГДУ імя М. І. Лабачэўскага, потым стаў выкладчыкам універсітэта (спалучае выкладанне з літаратурнай працай і па сённяшні дзень). Ну ды справа не толькі ў гэтым. Па-другое, паходжанне аўтара, яго любоў да роднай Беларусі, уражанні і назіранні, звязаныя з наведваннем малой радзімы — віцебскага краю, знаходзяць самае непасрэднае адлюстраванне на старонках кнігі. Тут і вялікі мазолаўскі цыкл «Вершы пра маці», і другія творы пра Беларусь, учарашнюю, партызанскую, і сённяшнюю, пра яе прыроду, пра сустрэчы з землякамі.

**Мне снится, что грустит моя сосна**
**На Витебщине, у отцовской хаты.**
**Как озимь, крона ярко-зелена.**
**А ствол, как мех медвежий, рыжеватый.**
**Стояла насмерть и она в бою.**
**И у нее в груди сидят осколки.**
**Она такою видится мне с Волги,**
**Когда у Вечного огня стою.**

Або ўзяць такія радкі:

**На тонкой паутине бабье лето**
**Плывет вослед за журавлиной стаей.**
**Я в Горьком белорусскому поэту**
**Свои стихи о Витебске читаю.**
**Кладет он к Вечному огню на круче**
**Цветы, проделав путь тысячеверстный.**
**Мне говорит:**
**«В бою убит, замучен,**
**Повешен каждый белорус четвертый».**
**«А если бы не Волга, — я подумал, —**
**Не чувство дружбы.**
**Чтобы с нами было?»**
**Уехал друг —**
**И холодком подуло.**
**И наш Откос снежком запорошило.**
**И я пишу: «От белоруса с Волги...»**
**На фотографии, что шлю поэту...**

Беларуская тэма, як бачым, натуральна пераплятаецца ў мастацкім узоры зборніка з паэтызацыяй зямлі ніжагародскай, рускай, красы і прыволля Паволжа, з услаўленнем адзінства лёсу і дружбы двух народаў. Дзве любові, дзве ракі пяе паэт адначасова — Дзвіну і Волгу. Ён прыгадвае, як некалі «еще не снявший формы фронтовик» упершыню ўбачыў наяве Волгу.

**И выросший у Репинского плёса,**
**Где живописец рисовал Двину,**
**Благоговейно я глядел с откоса**
**На волжскую священную волну.**

Ён вядзе шчырую, спавядальную размову з вялікай рускай ракой:

**Ты, Волга,**
**Мне и хлеб, и соль дала,**
**А чей я родом, ты и не спросила.**
**А кто я,**
**Гость у твоего стола,**
**Что, уезжая, говорит «Спасибо»?**
**А может, гостем**
**Стал я на Двине?..**

Характэрныя ў гэтым сэнсе і кранальныя па-свойму радкі верша, дзе аўтар расказвае пра тое, як узыходзіць на борт волжскага цеплахода, каб выступіць перад яго камандай з чытаннем вершаў.

**Робею. Думаю, с чего начать,**
**Как в первый раз к уроку приступаю.**
**И с облегченьем выдыхаю: «Мать».**
**О ком еще! О ней стихи читаю.**
**И светятся отзывчивей, теплей**
**Глаза, в которых словно льдинка стыла.**
**И на волне, сближающей людей,**
**Рассказ веду о Витебщине милой.**

Мастак, які афармляў зборнік Генадзя Бядняева, вынес на вокладку малюнак: на парудзелай ад бою траве — чырвонаармейская каска, кулямётная лента, россып адстраляных гільзаў. Гэта не выпадкова. У вершах нашага земляка, горкаўскага паэта, значнае месца займае тэма мінулай вайны («Мы шли вперед с позиций под Москвой», «В землянке», «Партизанский музей» і інш.). Тут ён як лірык зноў-такі звяртаецца да перажытага асабіста, да сваёй франтавой маладосці:

**Теперь,**
**Когда пишу я о войне,**
**То в сердце чувство у меня такое,**
**Как будто по заснеженной стерне**
**Опять иду в атаку под Москвою.**

І яшчэ адзін штрых, характэрны не толькі для кнігі «Пазіцыя», але і для творчага вобліку яе аўтара: у кнізе змешчаны пераклады з Багдановіча. І ў сувязі з гэтым момантам я хацеў бы яшчэ сказаць, што «беларус з Волгі» Г. Бядняеў шмат робіць для папулярызацыі нашай літаратуры і культуры нашай. Ён быў адным з ініцыятараў выдання ў тым жа Волга-Вяцкім выдавецтве цікавага ў многіх адносінах — пра гэта пісаў наш рэспубліканскі друк — зборніка «Пазыўныя дружбы», прысвечанага шматбаковым, у тым ліку і літаратурным, сувязям дзвюх абласцей — Горкаўскай і Мінскай. Вершы беларускіх паэтаў былі прадстаўлены на старонках зборніка ў перакладзе Г. Бядняева. Тут жа ён вынес упершыню на суд грамадскасці і свае пераклады твораў Максіма Багдановіча («Краю мой родны!..», «З песняў беларускага мужыка», «Раманс» і інш.). І вось, што натуральна і зразумела, уключыў у кнігу ўласных вершаў пераклады з любімага паэта...

**В небо гляжу я с тех пор, дожидаюсь.**
**Раннюю звездочку ищет мой взор.**
**Тихой любовью к тебе разгораюсь.**
**В небо гляжу я с тех пор.**

Цікавы, нават сімвалічны, пагадзіцеся, факт: радкі гэтыя перакладзены на той самай прыволжскай зямлі, на якой былі напісаны, у тым самым горадзе, у якім іх аўтар пражыў палавіну свайго жыцця і пачынаўся як паэт.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



●

І будзе дзень,
      і будзе вечар,
І лістапад,
      і снегапад.
Пакуль смяецца
      і шчабеча
Дзіцячы сад—
      птушыны сад.
Тут на адкрыцці
      дзень багаты,
Тут самы светлы
      ў свеце лад.
...Ах, птушаняты,
      птушаняты—
Сінеча
      мілых вачанят!
Калі ад зайздрасці
      хто хворы,
Душа стамілася
      ад звад
І пачарнела,
    быццам воран,
Акно адкрыйце
      ў гэты сад!

●

І ўсё-такі дзіва бывае!
Захочаш—і я пакажу,
Як сонечны промень іграе
На струнах гарэзных дажджу.

І роспач сплывае, як пена...
Захочаш—і я дакажу,
Што дождж на узроўні Шапэна,
Ты толькі даверся дажджу.

Я знаю—мяне падтрымаюць
У горадзе веснім усе.
І нават вадзіцель трамвая,
Што нас без білета вязе.

### Ноч у Балгарыі

Наш зямляк рэвалюцыянер-народнік Мікалай Судзілоўскі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання балгар супраць турэцкага ярма. Сябраваў з Хрыста Боцевым.

Балгары, другары...
Я зноў у радні.
Адзіныя мары,
Адны карані.
І песні, як рэкі,
З адзіных крыніц.
Нашчадку Машэкі
Іх спеў бараніць.
Іх гора яднае,
Бо з даўняй пары
Пяюць аб Дунаі
У нас на Дняпры.
Узнёсла і чыста
Іх журыцца лад.

Іх ведае Хрыста
І слухаць іх рад.

— Да пайду я да Дунаю,
Да стану я падумаю,
Што ў Дунаі і дно відно,
Што ў Дунаі і дно відно.
...А ранак вятрыста
Ўстае з-за хрыбта.
І веру я ў Хрыста,
Як нехта ў Хрыста!..
Балгары, другары...
Я зноў у радні.
Адзіныя мары,
Адны карані.

●

Зялёныя травы пажухлымі сталі
І цёмнаю светлая стала вада.
І дзікія гусі растайна крычалі,
Нібыта іх гнала якая бяда.
Іх крык усю ноч над зямлёю насіла,
І сын мой маленькі не змружыў павек.
Ён раптам ціхенька спытаўся пра крылы:
— Тата,
      дзе крылы падзеў чалавек?
Я доўга маўчаў вінавата,
Пакуль не прыдумаў банальны адказ...
А гусі растайна крычалі над хатай,
Кружылі
      і клікалі нас.

●

Пражыць палоннікам красы
На ўзмежку радасці і суму,
Каб каласіліся задумы
І выспявалі каласы.

●

Восень. Пагодзіна. Горкі.
Цэдзіць святло маладзік.
Тут па былінных пагорках
Калісьці
      Гарэцкі хадзіў.

Гэтак жа падалі зоркі,
Антонаўкі спелі ў садах.
Пахла бульбоўнікам горкім,
Калі ён пра долю гадаў.

Спеліў шчымлівае слова,
Каб праўдаю высвеціць сказ,
Каб слова
      дыхнула жытнёва
І нам
      растлумачыла нас.

### Замест эпітафіі

Кажуць, быў непрадбачлівы
Таму й слыў за няўдачніка.

Рагаталі разумнікі,
(А ў саміх вочы сумныя).

Пасміхаліся ворагі
І лічылі за хворага.

А ён быў незапаслівы—
Жыў без каменя за пазухай.

### Развітанне

Наш гадзіннік адцікаў-адтакаў,
Цень былога блукае між дрэў.
Яго дожджык халодны адплакаў,
Яго вецер асенні адпеў.
— Вольнаму воля...
— Зайздросная доля...
Зайздросная доля, кажу!
— А я й не любіла ніколі,
Ты чуеш,—ніколі!

І каб не заплакаць ад болю,
Ты твар падстаўляеш дажджу.

**З нізкі «Асацыяцыі»**

### Стол

Забралі ўсё гаспадары,
Што вартае хоць колькі.
І толькі стол стары
Стаіць пад белай столлю.

Пад белай столлю стол адзін...
Яму ніяк не сцерці
Ні радасці радзін,
Ні горасці смерці.

### Масніца

Рыпне масніца—
І памяць абудзіць.
Маленства прысніцца
І родныя людзі.

Запахне аерам
І зойдзе у хату.
Свята даверу—
Забытае свята.

### Лодка

Ланцуг паіржавеў
На ветраным плёсе.
На беразе правым
Самотна без вёсел.

Журботна да плачу
У ціхай залеве.
Ёй мроіцца ўдача
На беразе левым.

## ПРОЗА



**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**




*Быль*

Цягнік спыніўся на станцыі Пагодзіна. Маладая гаманлівая хваля студэнтаў сельгасакадэміі рынулася ў вагоны. Некалькі хлопцаў і дзяўчат з лёгкімі партфелямі, саквояжамі, фарсістымі дыпламатамі зайшлі ў наша купэ. Зрабілася тлумна, цесна. Пажылая кабета, што сядзела напроці мяне, пазірала на студэнтаў, і яе абсівераны, хударлявы твар увачавідкі святлеў, невялікія блякла-шэрыя, нібы выцвілыя, вочы цяплелі.

— Во будзе радасці маткам. Памочнікі прыехалі. Сама бульбу капаць. За выхадныя можна багата ўхапіць, калі надвор'е не падвядзе, — сказала яна глухаватым голасам.

— У каго выхадныя, а ў каго практыка. Гуляй — не хачу, — ухмыльнулася дзяўчына з русявай грыўкай валасоў, начасаных на лоб.

— Што гэта за практыка такая? — здзівілася кабета.

— Скончылася практыка. Прыехала я ў калгас. Вучуся на гідрамеліярацыйным. Чацвёрты курс. Прыехала, а мне кажуць: «У нас план гарыць. Дажджы пазалівалі ўсё. Нам не да цябе. Можаш ехаць дамоў».

— Як жа так? Гэтулькі гадоў вучыцца, пакутаваць. І паступіць цяжка. А дзеля чаго? — кабета блізка да сэрца прыняла словы студэнткі.

— Каб з дыпломам удала выйсці замуж, — хмыкнула дзяўчо ў вялікіх і круглых, бы веласіпедныя колы, акулярах.

— Трэба неяк адбіраць студэнтаў. Не ведаю, як там у меліярацыі. А ў школе і ў медыцыне рабіць павінны толькі тыя, хто любіць сваю прафесію, — рашуча сказала кабета.

— Дзе ж набрацца тых, якія любяць? — сказала дзяўчо ў акулярах.

— Хоць — ёсць упартыя. Мая сяброўка пяць гадоў паступала ў медыцынскі. Санітаркаю пайшла рабіць у бальніцу. І паступіла.

— Во, гэта будзе доктар! — сказала кабета.

— Дзяўчаткі, памажыце разабрацца, — высунуўся даўгавалосы хлопец з суседняга купэ. — Від канапы. Літар многа.

— Кушэтка, сказала русявая.

— Тахта, сафа, — дадала дзяўчына ў акулярах.

— Не, не падыходзіць. Думайце. Хто адгадае, таму гарачы пацалунак у тамбуры, — хлопец выскаліўся і знік.

— У вайну так хацелася паспаць хоць бы ноч у пасцелі і ў цяпле, — уздыхнула кабета.

— А вы былі на вайне? — павярнулася да яе дзяўчына ў акулярах.

— Не, на фронце не была. А гора нацярпелася, хай бог сцеражэ.

— Дык, можа, вы ў партызанах былі? — спыталася русявая.

— Муж быў у атрадзе. Была і я ў лесе. Усім хапіла. І ў лесе, і ў хаце. Усюды было пекла, — жанчына адвярнулася да акна і змоўкла.

За акном мільгалі заружавелыя бярозкі, ужо чырвоныя трапяткія асінкі. Вераснёўскі дзень дагараў. Неба праяснілася, абяцаючы назаўтра пагодлівы дзянёк.

— А дзе вас заспела вайна? — чамусьці закарцела мне спытаць.

— У Слуцку. Педвучылішча канчала, — ахвотна адказала кабета. — Увечары 21 чэрвеня былі танцы ў двары інтэрната. Разышліся мы пад раніцу. Маладыя ж былі, — мякка ўсміхнулася жанчына. — А назаўтра па радыё аб'явілі — вайна. У горадзе ўсчалася мітусня. У вучылішчы пачалі фарміраваць навабранцаў. А нам яшчэ застаўся апошні экзамен — руская мова і літаратура. Здавалі ўжо ў інтэрнаце. Выкладчыкі былі сумныя, мы таксама. Здалі экзамены, атрымалі даведкі: дыпломы не паспелі выпісаць. На размеркаванні я мелася ехаць у Гродзенскую вобласць, ды куды паедзеш? Пайшла з сяброўкаю ў сваю вёску. Толькі мы выйшлі з горада, як загула ў небе. Самалёты з крыжамі наляцелі, пачалі бамбіць станцыю, склады. Ля дарогі бомбы сыпаліся, зямля калацілася. Мы і беглі, і падалі, і ў кусты хаваліся...

Ну, дабраліся дадому. Бацька на фронт пайшоў, старэйшы брат служыў недзе пад Беластокам... І вось аднойчы мы з мамай палолі лён на агародзе. І зямлянку там выкапалі. Дзень цёплы, птушкі спяваюць. Раптам затрашчала нешта ля Слуцкай дарогі. Бачым, ляцяць немцы на матацыклах. Забеглі мы ў хату і праз акно цікавалі. А яны прамільгнулі, толькі ў фортку смуродам запахла... Пачала ўлада нямецкая ўстанаўлівацца. Старастам зрабілі Баркоўскага Рыгора. Зрабілі, бо выдаў нашых мужчын, актывістаў. Пахапалі іх немцы і ўсіх расстралялі...

Вярнуліся дамоў некаторыя з акружэння. Хаваліся па лесе, па хатах. Неяк адзін наш хлопец, Пятрок, ён таксама прабіўся з акружэння, і кажа мне: «Анюта, ці ведаеш ты, што ў нас партызаны ёсць?» — «Ну, чула. А бачыць не бачыла». — «Ты будзеш нам памагаць?» — «Каму гэта вам?» — «Партызанам. Я маю з імі сувязь. Толькі пра гэта нікому ні слова». — «Што я, дурная?..» Пятрок, малады, прыгожы, стройны такі быў. Згадзілася я памагаць. Пачалі мы сустракацца. А там і пажаніліся. Вайна вайною, а жыццё, маладосць сваё бярэ...

Студэнткі пераглянуліся, заўсміхаліся. Цягнік часта спыняўся, людзей усё менела ў вагоне. Цямнелася, але святла не ўключалі, і таму купэ было ахутана паўзмрокам.

— Жылі памалу, працавалі. Я перабралася да Пятра. І вось аднойчы раніцай... Гэта ўжо сорак трэці год быў. Здаецца, ліпень, жніво пачыналася. Раптам дзесьці недалёка стрэлы пачуліся. Зірнула на вуліцу — немцы з паліцаямі. Сядзім у хаце, як мышы пад венікам. Потым гадзін пад восем, я малую карміла, прыходзяць тры паліцэйскія — два незнаёмыя, а трэці з суседняй вёскі. «Дзе гаспадар?» Свякруха мая анямела, слова не можа сказаць, уся калоціцца, баіцца за сына. А Пётр коні павёў на начлег і ў любую мінуту можа прыехаць. «Дзе гаспадар Каранеўскі Пётр?» Я кажу, няма яго дома, паехаў па загаду немцаў лес рэзаць. А паехаў свёкар і другія мужчыны. Пастаялі, пайшлі. Я бягом на край вёскі, пераняла Пятра на выгане. Уцякай, кажу, у лес і да вечара не паказвайся.

Прыбягаю дамоў. Зноў увальваюцца паліцаі. Тыя самыя і адзін новы. «Дзе ваш гаспадар?» Я кажу, як і раней: паехаў лес рэзаць. «Каранеўскі Пётр?» — «Ён самы. Паехаў у абоз...» Некалькі разоў перапыталі. Адыходзячы, адзін зірнуў на мяне з такой лютай злосцю. Ну, думаю, калі хто падкажа, канец мне. Забралі яны тады чалавек дзесяць і паехалі... Свякруха з радасці цалуе мяне: «Дзякуй табе, што не збаялася, сыночка ўратавала роднага». Я сабе думаю: калі ён табе сыночак родны, дык мне муж родны... Любіла я свай-

го Пятра, дзяўчаты, ой, як любіла. Даўно было, а ўсё помніцца. Мусіць, ніколі яно не забудзецца. Але ўспамінаць пра той час дужа цяжка і балюча... І той ноччу сяджу ля акна, не распранаючыся. Чую, ціха адчыніліся весніцы. Прыйшоў Пётр. І свёкар быў ужо дома, вярнуўся ўвечары з абозу. Збірайцеся, кажа Пётр, паедзем у лес. Запрэглі кабылу, ускінулі на воз клункі. У лесе цемра, як у коміне. Пятра сустрэў нехта, пагаманілі ціха. Сказалі, трэба пачакаць, разведаць, ці няма засады на мосце. Стаім, чакаем. Свякруха давай плакаць: куды я еду, хворая, нямоглая, пайду дамоў. Мы яе адгаворваць: куды ты пойдзеш цёмначы? А яна злезла з воза і пайшла. Пазней даведаліся, што толькі пад раніцу прыцягнулася яна ў вёску. А праз нейкі час прыехалі немцы. «Матка, дзе сын? Партызан! Піф-паф», застрэлілі старую на гародзе ля пограба. Людзі пахавалі яе. Пётр дужа перажываў, учарнеў увесь. Я пра сваю маці бедавала: як там яна? Адна ж засталася...

Ну, Пётр у атрад, а нам сказалі ехаць далей. Намучылася я з дзіцем. Плача і ўсё тут. Цыцку даю — не бярэ, плача. Паўгодзіка тады было Верцы. Ехалі мы два дні. Дабраліся да вёскі Жывунь. Гэта Любанскі раён. Можа, месяцы два ці болей прабылі там. Зрэдку Пётр наязджаў. Абмыю яго, падлатаю адзенне. Ён мала што расказваў. Аднойчы пачула: «Ну, з Баркоўскім разлічыліся — адправілі на той свет». Другі раз сказаў, што падарвалі цягнік з баявой тэхнікай, і немцаў многа пабілі... Пайшла б і я ў атрад, але куды з малым дзіцем. Восень пачыналася, дождж, холад. Сказалі партызаны ехаць далей. Ехалі начамі. На дарозе лужыны, калдобіны. Неяк кабыла наша ўвалілася ў ямку, калёсы абярнуліся, я з дзіцем у ваду. Вымакла да ніткі. Села я пад кустом, калачуся, зуб на зуб не трапляе.

Раніцай паехалі далей. Помню, прыехалі ў вёску Баянічы, спыніліся нанач ля адной хаты. Гаспадыня добра сустрэла нас. У яе таксама была малая, як мая Верка. Папрасілася я на печ. Абсушылася, усё павысушвала. Ноч падалася мне як мінутка. Во вам, дзяўчаты, тахта і куцэтка, як у тым красвордзе... Уранні гаспадыня наварыла прасяной кашы. Есці хацелася страшэнна, але нас многа, а кашы адна міска. І такая яна была смачная, здаецца, з роду нічога смачнейшага не ела. Я часта ўспамінаю тое ранне і тую кашу... Задурыла вам галаву, га? — жанчына расшпіліла гузікі зялёнай кофты, засунула пад хусцінку пасмачку пасівелых ужо валасоў.

— Што вы, расказвайце, — папрасілі студэнткі.

●

— Перабыла я амаль да вясны ў гэтай вёсцы. Прала, вязала, рабіла ў людзей за кавалак хлеба. Аднойчы наехала партызанаў. Стаялі і ў нас. Паслалі саломы на падлогу, напалілі жалезную печку. Цалюткую ноч мыла я ім бялізну. Мыю і думаю: як там мой Пецечка? Хто яму памые бялізну? А мо ўжо і мыць не трэба? Мо ўжо няма яго?.. Прабылі партызаны два дні і пайшлі далей. Зіма той год была не надта халодная. Снегу было мала, вясна ранняя. Дайшлі да нас чуткі, што ідуць немцы. Блакада. Кінуліся ўсе ў лес. І мы таксама. А вецер пранізлівы, да касцей прабірае. Цемра вакол. У нейкіх кустах заначавалі. Раніцай нейкая кабета, угледзеўшы, што я з малою, наліла мне конаўку малака.

Пасунуліся мы далей у балота, у алешнік. Пад вываратнем атабарыліся. Паслала пасцель на зямлі. Верцы пад бок клала падушку. І свёкар побач з намі. Удзень сядзелі, бы краты. Ноччу воддаль раскладвалі цяпельца, варылі зацірку з мукі — ячменнай, нясеенай, з асцюкамі. Варылі без солі, вада з балота, іржавая. Елі раз у дзень гэтай заціркі. Неяк я несла варыва, спатыкнулася і разліла. Суткі зусім нічога не елі. Верка яшчэ грудзі смактала. І я так саслабела, што ўстану і падаю. А тут снег пайшоў, халадэча дзікая.

Аднаго разу ўсчалася страляніна. Чуваць галасы, крыкі немцаў, плач дзяцей. Аказваецца, немцы захапілі людзей на востраве і гналі міма нас. А мая Верка ўздрыгвае за кожным стрэлам. Малю бога, каб не заплакала. На шчасце, Верка не падвяла, немцы нас не ўгледзелі. Потым мужчыны знайшлі забітую карову. Увечары зварылі зацірку з мясам. Я тое мяса есці не магла, яно пахла ўжо, а заціркі пасёрбала і дзіця пакарміла... Адпакутавалі мы ў гэтым балоце тыдні тры, а мо і чатыры. Ніхто не ведаў, які дзень, якое чысло.

Вясна ўбіралася ў сілы. Трава ўжо адскочыла. Боты мае згнілі і разявіліся. Падвязала іх дротам, так і хадзіла. Аднаго дня добра прыгрэла сонейка. Палажыла я дзіця і дай, думаю, здыму боты, абсушуся. Хусту ссунула на плечы. На мне была тонкая бацістоўка і хуста з махрамі, цёплая. Косы нерасплеценыя злямчыліся. А ў мяне былі доўгія косы... Ну, разулася. Гляджу, а пальцы мае ўсе аблезлі, панчохі ваўняныя збуцялі, згнілі. Села на купінку і давай сушыцца.

Раптам стрэлы — адзін, другі. Закруціла валасы, хусту на галаву, схапіла панчохі, давай абувацца. Панчохі мокрыя, на ногі не лезуць, дзіця прачнулася ад стрэлаў, плача, заходзіцца. Свёкар падбег да мяне, хоча памагчы. Я кажу, уцякайце, вы мне не паможаце, я сама. Суседка Мар'я з дзецьмі кінулася ў другі бок. Чую, немцы блізка гергечуць. А ў мяне ні рукі, ні ногі не слухаюцца. Панчохі, як пацягну — рвуцца. Басанож не пойдзеш. Холадна, снег у лагчынах ляжыць. Нацягнула адзін бот, сяджу. І так горка, крыўдна зрабілася. І тут немец падыходзіць. Тоўсты насаты немец гоніць Мар'ю з дзецьмі. На мяне вызвярыўся: «Шнэль!» Прайшоў міма і ледзь не наступіў на Верку. Падняў брудны бот — у мяне сэрца абамлела, — перасігнуў і да Мар'і: цягне з яе рук коўдру саматканую. Мар'я не аддае, паказвае, што дзецям трэба. Валтузяцца. Не помнячы сябе, схапіла я цяжкі корч і з усяго маху агрэла немца па шэра-зялёнай пілотцы. Немец асунуўся, бы мяшок. «А божачкі, што ж ты нарабіла? — ціха завойкала Мар'я, азірнулася. — Давай яго ў ваду». Пад вываратнем была яма. Спіхнулі мы немца туды, закідалі галлём...

— А немец малады ці стары? — спытала студэнтка ў акулярах.

Жанчына ўздрыгнула, але адказала глухаватым спакойным голасам:

— Стары... А другі, падышоў — малады зусім. Стаў, пасміхаецца, што ў мяне рукі калоцяцца. Палапаў па кішэнях, дастае цукерку. «Бітэ», — і паказвае на малую. А я гляджу на яго няўцямна. Тады спахапілася, кажу: «Данке», — я ж вучыла нямецкую, але цукерку не бяру. Ён тады: «Бітэ шон», а я яму: «Данке шон». Ён смяецца, кладзе цукерку каля малой. Верка плача на ўсю галаву. Немец давай яе супакойваць, лапоча нешта. Дастаў блішчасты губны гармонік і выцінае нейкую вясёлую песеньку. І што вы думаеце — малая адразу супакоілася. Слухае.

Ну, абулася я, узяла дзіця. Было пасля паўдня ўжо. Ярка свяціла сонца, птушкі спявалі. Трава зелянела, у балотцах лотаць зажаўцелася. Выгналі нас на паляну. Паселі мы на зямлю. Перакладчык, высокі і тонкі, як гліст, сказаў, што з намі нічога рабіць не будуць, пагоняць у вёску, каб мы там жылі... Тут падбег да яго немец і пачаў нешта хутка гаварыць. Абкружылі яны нас, аўтаматы наставілі. «Хто забіў нямецкага салдата?» А жанчына да перакладчыка: «Паночак, мы слабыя, ледзь ходзім, ён, можа, заблудзіўся ці ўтапіўся». Перакладчык сказаў старшаму. Стрэліў той тры разы ўгору. І дзесьці далёка, зусім у другім баку, пачуўся стрэл. Загергеталі яны між сабой, старшы зірнуў на гадзіннік і закамандаваў ісці.

На дарозе, па якой нас пагналі, суцэльная вада. Дзе глыбокая, дзе мялейшая. Нас было чалавек сорак, жанчын і дзяцей. Адна дзяўчына хворая на тыф. Маці і чужыя людзі вялі яе пад рукі. Хворая трызніць, крычыць у гарачцы, каб яе забілі. Немцы панашаму мала што разумелі. Але як пачулі, што тыф, уцяклі наперад. Ззаду ішоў толькі адзін з аўтаматам і крычаў: «Шнэль, шнэль, русіш швайн...»

Дабраліся мы да вёскі Жывунь. Я ўжо гаварыла, што жыла там у крайняй хаце. Прыгналі нас у хлеў маёй гаспадыні. У хаце — немцы. На двары, дзе мы seклі дровы, валяюцца каровіны ногі, косці. У хляве была салома, мы растрэслі яе, селі хто дзе. У дзвярах вартавы. А маё дзіця так плача, няма ратунку. Памерзлі мы, адубелі ад халадэчы.

Адвячоркам, гадзін каля сямі, прыходзіць хударлявы, насаты, як дзяцел, немец з палкай у руцэ. Загадаў усім устаць. «Вы есць рускі жэншчыны і дзеці. Мы вас не трогайт. Вы пойдзеце ў дома жыць. Но после 6 часов вечера не выхадзіць уліца». І па чарзе пачаў пытацца: дзе твой муж, дзе твой бацька — у дзяцей. Мы падвучылі малых: кажыце — памёр, загінуў...

Разышліся мы па хатах. Вокны ўсюды павыбіты, вецер гуляе. Пасяліліся мы ў адной хаце — тры сям'і. Знайшлі ў пограбе трохі буракоў, хлапчук Мар'ін прынёс каровіну нагу з таго двара, дзе немцы стаялі. Варылі мы тую нагу пяць дзён, на шосты ўжо не было ніякага навару. Жанчыны хадзілі на работу, высякалі па загаду немцаў кусты ля дарогі, палілі іх. Я не хадзіла, бо дзіця не было на каго пакінуць. І вось у нядзелю адна жанчына дала мне жменю проса тоўчанага. Пачала я ў конавачцы варыць кашу. Гадзін у дзесяць убягае немец: усе на работу, збор у канцы пасёлка, увечары ўсе вернецеся, дзяцей пакідайце. Мы папрасілі жанчыну з суседняй хаты — у яе былі ногі абмарожаныя, — каб яна паглядзела нашых дзяцей. З намі жыла Валя з трыма дзецьмі: хлопчыкі дзесяці і сямі гадоў і дзяўчынка гадоў чатырох. Выйшлі мы, а мая Верка і зайшлася плачам. Вярнулася, узяла яе.

Сабралі нас усіх. Перакладчык і гаворыць: вы пойдзеце на работу, увечары вернецеся, дзяцей не бярыце. А я зашылася між жанчын з Веркай. Ну, пагналі нас. Немцы на конях, а мы пяхотой. Гоняць і роняць. І ўсе ўжо зразумелі, што не на работу. Як загаласілі жанчыны, каторыя пакінулі дзяцей, ды назад бегчы, а немцы іх бізунамі. Я іду, дзіця на руках. Адкуль сіла бралася, не ведаю. Кашу нясу ў конавачцы, яна добра не дварылася, даю кашу Верцы. Жанчыны маладзейшыя памагалі мне яе несці...

●

Цягнік спыніўся. Студэнтка ў акулярах зірнула ў акно. «Ой, гэта ж Крычаў. Мая станцыя... Але поезд стаіць тут пятнаццаць мінут. Паспею. Ну, што далей было?» — падсела яна бліжэй да жанчыны.

— Чым далей, тым страшней, — апавядальніца сцепанула плячамі, бы ад холаду, зашпіліла кофту на ўсе гузікі. — З намі гналі трох партызан, незнаёмых. Змучаныя, у споднім, босыя, на нагах ланцугі, рукі звязаныя назад. Ісці яны ўжо не маглі. Адзін упаў, яго прыстрэлілі... Два яшчэ цягнуліся. Павярнуў адзін з іх убок, і таго застрэлілі. Потым трэці ўпаў, яго коньмі затапталі... Так нас гналі кіламетраў пятнаццаць. Прыгналі ў вёску Лясковічы. Там поўна немцаў. Баракі, у іх палонныя. Загадалі нам сесці і сядзець. Усе пападалі на зямлю. Выйшаў перакладчык і сказаў: «Рускія граждане! Нямецкая ўласць вас не троне, калі вы самі аддасцё што ёсць у вас з вяшчэй цэнных. Калі мы знойдзем — расстрэл». Паўтарыў ён тры разы. Усе маўчаць. Потым адзін немец пачаў абшукваць у першым радзе. Але нічога-нічагусенькі не знайшоў і кінуў шукаць.

Прасядзелі мы гадзіны тры. Зноў нас пагналі. І прыгналі ў вёску Забалацце. З краю стаяла хата, абгароджаная калючым дротам. Двор парос зялёнай травой. Раней тут была школа. Паселі мы на двары. Побач са мной Ядзя, маладая прыгожая кабета, па дарозе з ёй пазнаёмілася, і Насця з дзяўчынкаю гадоў чатырох. Сядзім, угнуўшы галовы. Прыходзіць апрануты ў цывільнае чалавек, з вусікамі, у капелюшы. Абышоў вакол, наблізіўся да нас. Угледзеўся на Ядзю. Яна і пытае: «Што з намі будзе?». А ён кажа: «Вас падзеляць на тры групы. А там будзе відаць». — «А ў якую групу лепей ісці?» — «Лепей з дзецьмі і старымі. Толькі твары не паказвайце...» Так і было. Прыйшоў начальнік. Сказаў па-нямецку. Перакладчык растлумачыў: жанчыны з дзецьмі — сюды, старыя — сюды, маладыя — сюды. Я пайшла да старых, Ядзя і Насця, прыгнуўшыся, за мной. Перакладчык прайшоў, быццам праверыў, і кажа: «Сядзіце, не падымайцеся, пакуль начальнік не паедзе». Афіцэр згледзеў русявую жанчыну з цёмнавокай дзеўчачкай гадкоў пяці. «Юда? — паказаў стэкам на малую. — Кто знайт этот жэншчын?» Усе прыціхлі. Тады я кажу: «Я знаю. З нашай вёскі яна». — «Як яе імя?» — «Параска. Ну, Праскоўя, значыць. А дзевачку завуць Зоська». Жанчыны пацвердзілі. Афіцэр вырваў дзяўчынку ў маці, пасадзіў яе пасярод двара. «Зоська застанецца тут. А матка паедзе ў Германію». Маці з плачам кінулася да малой. Салдаты схапілі яе, адцягнулі. Я тым часам узяла за руку дзяўчо і схавалася між людзей. Малая праз слёзы і кажа: «Я не Зоська. Мяне завуць Бэла...»

— Ой, цётачка, мне трэба выходзіць, — падхапілася студэнтка ў акулярах. — Скажыце, Верка ваша жывая?

— Еду ў госці да яе. Унучку хачу пабачыць. Бульбу пасоблю выбраць... Пасля вайны адшукалі мяне Бэліны бацькі. Так ужо дзякавалі. Цяпер пісьмы пішуць, у госці прыязджаюць... Бэла замужам, сына гадуе.

— Ну і добра. Вам, цётачка, жадаю ўсяго самага найлепшага. Жывіце доўга, не хварэйце. Можна, я вас пацалую? — і, не чакаючы адказу, цмокнула жанчыну ў шчаку, цмокнула сяброўку, кіўнула мне і выбегла.

●

Цягнік ужо адыходзіў. Праплывалі міма светлыя шарыкі ліхтароў.

— А што далей? Прабачце, як вас завуць? — спытаў я.

— Ганна Дзянісаўна... Што далей? Маладых пагналі ў Нямеччыну. Старых і з дзецьмі каторыя — жыць у хаты. Мы пайшлі разам — Мар'я з двума дзецьмі, Ядзя і Насця. Адвялі нам старую хаціну з маленькімі акенцамі. А цераз дарогу стаяў вялікі новы дом. Там жыў перакладчык. Ён прыжаніўся, і было ў яго малое, мо з паўгодзіка яму. Перакладчык часта прыходзіў да нас, расказваў пра сябе. Гаварыў, што працаваў настаўнікам пад Смаленскам, прымусілі яго немцы служыць ім, што яму давядзецца расплачвацца за сваю службу.

Неяк ноччу мы чуем моцны выбух. Раніцай выходжу, бачу на вуліцы патрулі нямецкія ходзяць. Падбеглі да мяне двое, схапілі і павялі. Я плачу, прашуся напраміла бог, нічога і слухаць не хочуць. Дагнаў нас перакладчык. Як пачаў ім гаварыць па-нямецку, як пачаў, а яны злыя, гергечуць і цягнуць мяне. Нарэшце, адпусцілі. Уваходжу ў хату белая, што палатно. Цэлы дзень сядзелі мы дома. Адвячоркам заходзіць перакладчык і кажа, што партызаны замініравалі дарогу і падарваўся нямецкі начальнік. Вось немцы і забегалі. Заўтра будуць зноў хапаць у Германію маладых. Гэта будзе гадзін пад дванаццаць. Хавайцеся. Насця, Ядзя і я пайшлі ў хлеў. Там стаяў велізарны куфар. Схаваліся ў куфар. Мар'я зачыніла нас і сама ў хату, а дзеці ляглі на падлозе — маўляў, тыф. Мы прачынілі вечка, каб дыхаць лёгка было, і сядзім. Чуем галасы, ідуць немцы ў хлеў. Перакладчык паторкаў кійком у салому, сказаў нешта па-нямецку, а мы ні жывыя, ні мёртвыя сядзім, задыхаемся. Немцы зачмыхалі ад пылу і пайшлі ў хату. Мы трохі паднялі вечка, уздыхнулі. З хаты немцы хутка выкаціліся. Потым прыходзіць Мар'я, кліча дамоў. Заходзім, а там сядзіць перакладчык, пасміхаецца: «Ну што, курапаткі, жывыя? Скажыце мне дзякуй». Начарціў нам план, як можна прайсці міма пастоў.

Рашыліся мы ноччу ўцякаць. Гародамі падаліся ў кусты. Усё асвятлялася ракетамі, відната, хоць іголкі збірай. Але кусты нас хавалі ад злога вока, а далей лес пачаўся... Ішлі мы цэлы тыдзень. Насця ведала дарогу. Заходзілі ў вёскі, дзе давалі чаго перакусіць. Адна бабуля, як сёння помню, зварыла рэдзенькай бульбы без солі, без нічога. Бульба мерзлая, салодкая. Я сама паела і малым дала. Як стала ўначы Верка плакаць, на ўсю хату. І старая насіла яе, і стары гушкаў. Ядзя з Насцяй спалі, як забітыя. Прыцягнуліся мы зноў у Жывунь. Свёкар ужо вярнуўся сюды, узрадаваўся да слёз, калі ўбачыў мяне з Веркай. Хоць ты паратуеш, кажа, а то вошы заелі. А я пытаюся, ці не бачыў Пятра? Не, кажа, не бачыў, а людзі перадавалі, што ён жывы, быў паранены ў нагу. «Дык што ён, без нагі?» — пытаюся, як дурніца, а сама думаю: хоць без нагі, абы жывы. «Казалі, ногі цэлыя. Дні тры назад чуў ад людзей...»

Узрадавалася: жывы мой Пецечка, жывы сокал мой ясны. Сталі мы жыць у невялічкай цеснай хаціне. Гаспадыня Тэкля, мужык яе Яўхім, Мар'я з дзецьмі, свёкар і я з малымі. Тры сям'і ў адным катуху. І раптам Тэкля захварэла на тыф. Я спала з малымі на падлозе, а Тэкля на ложку кідалася ў гарачцы. Во, набралася страху... А есці няма чаго. Пяклі мы хлеб з адной бульбы. Цёрлі на тарку сырую бульбу і варылі, потым цёртую змешвалі з варанай і тады пяклі. Не помню, колькі мы пражылі тут. Доўга, бо Верка і хадзіць пачала.

(Заканчэнне на стар. 10—11).

жанчына ў нацыянальным адзенні, арнаментаваным стылізаванымі сонцамі. У руках галінкі дуба. Справа і злева — постаці юнакоў. У аднаго чарцёж з умоўным адлюстраваннем тэхнічнага працэсу, на чарцяжы ў другога — арбіты планет. Перад жанчынай, на першым плане, дзіця робіць першыя крокі. Гэта адзіны габелен, дзе мастак звяртаецца да этнаграфічных матываў. Пры гэтым дасягаецца і высокая ступень гістарычнага абагульнення.

**У межы медальёна, дзе размешчана галоўная кампазіцыя габелена, знізу ўваходзіць медальён меншага памеру. Яны звязаны паміж сабою па прынцыпе прычынна-выніковай сувязі.**

**У габелене «Першадрукар» партрэт вялікага асветніка дапаўняе выява дубовага дрэва, што ідзе каранямі ў кнігу. Сімвалічна выяўлена думка «веды — сіла». Кампазіцыя, прысвечаная Я. Купалу і Я. Коласу, і тут жа постаць песняра-лірніка. Гэта сувязь высокай паэзіі з народнай традыцыяй. Штурм Зімняга на габелене «Кастрычнік» дапаўняе рэвалюцыянер-агітатар: слова, якое пераходзіць у справу. Касманаўты на габелене «Космас» і жанчына ў чырвоным — штурм Космасу як вынік рэвалюцыі на Зямлі. «Стваральная праца» сімвалізуе шчасце, здабытае ў барацьбе, і барацьбу як умову шчасця.**

З фае, упрыгожанага габеленамі, глядач уваходзіць у залу — і тут завяршэнне гэтага мастацкага ансамбля: габеленавая заслона з выявай квітнеючай папараці. Легенда пра папараць праходзіць праз усё беларускае мастацтва, у ёй адлюстраваны гістарычны вопыт шматлікіх пакаленняў. Знайсці папараць-кветку — гэта значыць ва ўяўленні людзей і здабыць сваё шчасце. Пераадоленне амаль немагчымага!

Задачы, што стаялі перад А. Кішчанкам — і канструктыўна-мастацкая, і ідэалагічная, — вырашаны смела, змястоўна, цікава. Асобныя кампазіцыі на габеленах суадносяцца паміж сабою як элементы архітэктурнага ордэна: варта страціць самую «нязначную» дэталь, і гармонія парушаецца. Гэта сапраўдны сінтэз архітэктуры і манументальнага мастацтва. Адначасова падкрэслена значэнне тэатра як асяродка нацыянальнай культуры.

Неўзабаве габелены стануць неад'емнай часткай вобраза нашага опернага тэатра ў такой жа ступені, як калясніца Апалона на фасадзе — неад'емная частка нашага ўяўлення аб Вялікім тэатры ў Маскве. Магчыма, аблічча абноўленага будынка надасць новыя імпульсы і для творчай дзейнасці артыстычнага калектыву, асабліва ж узбагаціць эмацыянальныя ўражанні гледача.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## МУЗЫКА




**«Купальскія гульні», «Вечарынка ў беларускай хаце», «Беларуская мяцеліца», «Лявоніха»... Надзвычай яркім, маляўнічым відовішчам былі захоплены гледачы, якія пабывалі на сёлетніх канцэртах Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, прысвечаных 25-годдзю яго стварэння. Быццам стракаты кілім, сатканы з разнастайных народных танцаў, раскінуўся перад нашымі вачамі. Жаночы карагод «Перапёлачка» змяняўся зухаватым мужчынскім танцам «Лявоны», жартоўная «Ківуха» — лірычным танцам «Каханачка». І ўвесь гэты калейдаскоп фарбаў, настрояў, рытмаў быў падпарадкаваны адзінай драматычнай задуме, аб'яднаны ў цэласны танцавальны спектакль.**

**Ды часам бывае на канцэртах танцавальных калектываў, што вочы радуюцца, а вуха міжволі насцярожваецца. Вось прагучала фальшывая нота, вось крыху спазніўся ўступіць нейкі інструмент або нават група інструментаў. Або так: мелодыя гучыць як быццам знаёмая, але аранжыроўка скасавала ўсе яе вартасці.**

**На выступленнях жа Дзяржаўнага ансамбля танца БССР музычнае суправаджэнне і на гэты раз радавала высокапрафесійным, дакладным па характары выкананнем, удалымі апрацоўкамі народных мелодый. (Ужо, здаецца, як добра ведаеш мяккую, лірычную «Перапёлачку», чуў яе ў самых разнастайных варыянтах, а тут раптам зусім асабліва загучалі падгалоскі, з'явіліся новыя гарманічныя і аркестравыя фарбы — і здзіўляешся свежаму, абноўленаму гучанню).**

**Звярнуўшы ўвагу на гучанне аркестра, падумала: а чаму б не пагаварыць пра гэты, неад'емны ад сцэнічнага відовішча, «мастацкі кампанент» танца? І вось я — у невялікім пакоі на трэцім паверсе філармоніі, дзе праходзяць рэпетыцыі аркестра Дзяржаўнага ансамбля танца БССР. Гутарым з дырыжорам Уладзімірам ЦАТУРАВЫМ.**

— Нашаму калектыву споўнілася 25 гадоў. Арганізаваў яго заснавальнік ансамбля танца БССР Аляксандр Апанасенка. За дырыжорскім пультам сталі ў розныя гады Глеб Алоўнікаў, Уладзімір Багадайка, Уладзімір Зубцоў і іншыя музыканты. З невялікага складу аркестр ператварыўся цяпер у адзіны калектыў, які нагадвае эстрадна-сімфанічны аркестр у мініяцюры: струнная група, драўляныя і медныя духавыя, ударныя і група баяністаў. Апошнім часам у нас з'явіліся цымбалы, такія фальклорныя інструменты, як дудкі, дуда, ліра, басэтля. Каб узбагаціць, разнастаіць гучанне, набылі флюгельгорн, стрынг-піяна. Не так даўно з'явілася ў нас у калектыве задумка: стварыць невялікі сцэнічны аркестр, які непасрэдна ўдзельнічаў бы ў жанравых харэаграфічных сцэнках. Сёе-тое ўжо зроблена: у гумарэсцы «Селівоны» (музыка Андрэя Мдзівані) на авансцэну выходзяць чацвёра музыкантаў аркестра ў нацыянальных касцюмах, іграюць на гармоніку, ліры, дудцы і бубне. Ствараецца як бы эфект бесперапыннасці сцэнічнага дзеяння. Фальклорная група дасць нам магчымасць пашырыць засваенне беларускага інструментарыя: у запасе ж у нас званочкі і трашчоткі, падкова і нават прасніца!

**— А дзе вырабляюць для вас фальклорныя інструменты? Гэта ж рэчы цяпер унікальныя...**

— Раней па такія інструменты мы былі вымушаны звяртацца на Украіну, у Івана-Франкоўск, дзе ёсць фабрыка старадаўніх музычных інструментаў. А цяпер у Беларусі пры Міністэрстве культуры створана майстэрня па вырабе і рэстаўрацыі беларускіх народных інструментаў. Кіруе ёю вядомы майстар Уладзімір Пузыня.

**— Відаць, стабільнасць работы вашага калектыву залежыць і ад творчых кантактаў з беларускімі кампазітарамі?**

— Для нашага аркестра пісалі і пішуць многія беларускія кампазітары: гэта Яўген Глебаў і Андрэй Мдзівані, Рыгор Сурус і Пётр Альхімовіч, Уладзімір Кандрусевіч і Уладзімір Прохараў... Кампазітары прапануюць нам і апрацоўкі народных мелодый, і арыгінальныя п'есы. Некалькі гадоў не сходзіць са сцэны танец «Закадычныя сяброўкі». Музыку да яго напісаў Яўген Глебаў. «Бачныя» вобразы-характары, ясная драматургія, цікавая інструментоўка,— гэтыя якасці, уласцівыя партытурам кампазітара, шчодра праявіліся і ў п'есе для ансамбля танца. Прычым, кампазітар напісаў яе без усялякіх скідак на невялікі склад нашага аркестра. І музыканты з сапраўдным захапленнем працавалі над складанай партытурай. Вельмі маляўнічую апрацоўку беларускай тэмы ў танцы «Маталіха» стварыў Уладзімір Кандрусевіч. Многія апрацоўкі народных мелодый, выкарыстаных у харэаграфічных нумарах, рабілі і самі дырыжоры аркестра. Гэтыя апрацоўкі час ад часу даводзіцца абнаўляць. Гэта звязана як са зменамі самога пастановачнага малюнка танца, так і з выкарыстаннем больш сучасных прыёмаў музычнага развіцця. Як прыклады назаву танцы «Лявоніха», «Перапёлачка», якія многія гады знаходзяцца ў залатым фондзе ансамбля танца.

**— Вы закранулі творчыя асаблівасці менавіта такога спецыфічнага калектыву, як ваш аркестр. Ёсць у вас, напэўна, і свае праблемы?**

— Безумоўна, пэўныя цяжкасці, звязаныя з невялікім складам аркестра, з даволі працяглымі гастролямі, ёсць. Некаторыя мы паспяхова пераадольваем: напрыклад, нашы струннікі-скрыпачы асвоілі домру, гучанне якой так неабходна ў рускіх танцах. Адзіна правільная арыентацыя, на нашу думку,— разнастайнасць гучання аркестра за кошт універсалізму выканаўцаў. Для забеспячэння высокай якасці гучання выкарыстоўваем і гукаўзмацняльную апаратуру. Дзякуючы энергічным захадам дырэкцыі ансамбля танца аркестр набыў новыя тэхнічныя сродкі.

У нас у аркестры поруч з ветэранамі Міхаілам Паповым, Аляксандрам Фянько, Міхаілам Зісманам, Мікалаем Чычыным, Аркадзем Розманам працуюць маладыя музыканты. Некаторыя яшчэ займаюцца ў кансерваторыі. А гастрольны план не ўлічвае занятасць студэнтаў на сесіі. Хацелася б, каб у навучальных установах ішлі насустрач музыкантам гастрольных калектываў, каб яны мелі магчымасць здаваць экзамены па індывідуальным графіку. І яшчэ — у нашым аркестры працуюць людзі, цалкам адданыя творчасці, якія ўсведамляюць вялікую адказнасць прадстаўляць беларускае мастацтва ў паездках па краіне і на замежных гастролях.

**На заключэнне нашай размовы некалькі слоў дадае мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца БССР Віталій БУТРЫМОВІЧ:**

— Па-рознаму нараджаецца танец. Бывае, напачатку ўзнікне сюжэт, а затым ствараецца музыка, бывае і так, што музыка сама падказвае харэаграфічны тэкст. Але заўсёды музычнае суправаджэнне ў танцавальным калектыве павінна быць стымулам для балетмайстра. Наш аркестр цяпер узняўся на новую творчую прыступку, і работа вымагае ад музыкантаў большай адказнасці і творчай самаадданасці.

**І зноў мы на канцэрце. Плывуць у карагодзе дзяўчаты ў блакітных вяночках, скачуць праз купальскія кастры хлопцы, уецца і круціцца «Мяцеліца», гарэзнічае «Лявоніха»... Гучаць беларускія напевы, такія знаёмыя і *надзіва свежыя*. Вернасць лепшым традыцыям нацыянальнага выканальніцтва, прафесіяналізм, творчы запал — зарука поспеху садружнасці харэографаў, артыстаў Дзяржаўнага ансамбля танца БССР і яго музыкантаў. А нам — гледачам і слухачам — абяцанне новых радасных сустрэч з неўміручым, чыстым і натхнёным народным мастацтвам.**

**Іна ГУРАРЫЙ.**

## У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ — ВІА

Нядаўна ў Беларускай ордэна Дружбы народаў дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. *Луначарскага адбылася творчая дыскусія.*

Ва ўступным слове старшыня камісіі музыказнаўства СК БССР Г. Глушчанка адзначыў асаблівую актуальнасць праблематыкі музыкі ВІА, яе вялікую папулярнасць, асабліва сярод маладзёжнай аўдыторыі. Указаўшы на неабходнасць дакладнага, мэтанакіраванага кантролю за дзейнасцю дзесяткаў і соцень самадзейных і прафесійных ВІА, ён падкрэсліў тыя станоўчыя тэндэнцыі, якія вызначыліся ў апошнія гады ў рабоце гэтых калектываў. Неабходныя далейшыя плённыя пошукі ў галіне стварэння высокамастацкіх твораў для вакальна-інструментальнага жанру.

У дыскусіі прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускай эстрады. Цікавым было выступленне мастацкага кіраўніка ансамбля «Верасы» В. Раінчыка.

Удзельнікі дыскусіі не абмяжоўваліся абмеркаваннем толькі тых пытанняў, якія непасрэдна звязаны з праблемамі ВІА. Мастацкі кіраўнік аркестра Мінскага дзяржаўнага цырка М. Фінберг спыніўся на асаблівасцях развіцця эстраднай музыкі ў нашай краіне, расказаў аб творчых планах калектыву. Галоўны дырыжор аб'яднання музычных ансамбляў Э. Агароднік адзначыў спецыфіку работы самадзейных ВІА, асаблівую ўвагу ён спыніў на неабходнасці пастаяннага павышэння прафесійнага ўзроўню ўдзельнікаў такіх калектываў.

Дыскусія прайшла ажыўлена і цікава, на добрым прафесійным узроўні. Застаецца толькі пажадаць, каб часцей абмяркоўваліся за «круглым сталом» актуальныя задачы савецкай масавай музыкі.

**Д. ШАБАТУРА.**

---

ніліся пераначаваць. Гаспадыня сустрэла нас ветліва, дала сяго-таго павячэраць. Ляглі спаць. Я з дзецьмі на лаве. Не паспела заснуць, як на мяне напалі скочкі. Верка і Бэла заплакалі. Запаліла я лучынку, бачу дзеці спрэс у чырвоных плямах... Ледзь прычакала дня, каб ехаць далей. К начы дабраліся дадому. Матчына хата стаяла цалёханькая. Грукаю ў дзверы. Мама адчыняе і не верыць, божкае, ніяк не можа даць веры, што я жывая, і Верка са мною, ды яшчэ і сястрычка Бэла. Што ўжо было радасці, няма слоў, каб выказаць...

●

Ганна Дзянісаўна паднесла да вачэй хусцінку, памаўчала, зірнула на гадзіннік.

— Ужо і мая станцыя скора. Цягнік стаіць адну хвіліну...

Я падняў сядзенне, дастаў яе сумку, напакаваную яблыкамі, грушамі.

— Частуйцеся грушамі,— студэнтка і я адмаўляліся, але Ганна Дзянісаўна падала нам па вялікай, цяжкой, не раўнуючы, як граната-лімонка, васковажоўтай грушы.— Пётр насадзіў пасля вайны багата груш. Свёкар лаецца на яго, а Пётр кажа: той не слуцак, у каго грушы не растуць. Во, сумка лягчэйшая будзе. Я тэлеграму дала. Калі яна не заблудзіла, дык сустрэнуць. Яны тут недалёка жывуць. Вера ў школе працуе. Па маіх слядах пайшла. Здароўем не можа пахваліцца. Цяжкое маленства было. Але інстытут скончыла. А мне не было калі.

— Значыць, Пётр вярнуўся з вайны? — спытала студэнтка.

— Вярнуўся. У кастрычніку сорак пятага. Медалямі і ордэнамі ўсе грудзі ўвешаны... А я пасля прыезду злегла. Тыф. Усё не паддавалася, хадзіла. А тады неяк устала ўранні і звалілася. Жыў у вёсцы фельчар старэнькі. Паклікалі яго, ён і кажа: тыф, галубка. І адлежала я шэсць тыдняў. Потым занава хадзіць вучылася. А каса мая як была заплецена ў пляцёнку, так і адвалілася ад галавы. Ну, памалу акрыяла, рабіць пачала ў школе. І вось трыццаць пяць год адрабіла. Нажылі мы з Пятром яшчэ сына. У яго ўжо сваіх двое хлопцаў. Род Каранеўскіх не звёўся. А Пятра няма. Даўно памёр, у пяцьдзесят восьмым. У партызанах паранілі, на фронце таксама. У яго ў лёгкіх асколак сядзеў. Ён і звёў яго на той свет... Цяпер во ветэранам і гонар, і пашана. І мне далі медаль «Ветэран працы». А яго медалі ўсе пагубляліся. Дзеці гулялі з імі, пазакідалі недзе. Толькі ордэн Айчыннай вайны збярогся. Гэта яму за партызаншчыну далі. Ён цягнікоў многа падарваў... Замуж я болей не выходзіла. Дзяцей трэ было выводзіць у людзі. Абое інстытуты паканчалі. Хай жывуць. Абы во ціха было на свеце.

— А бацька і брат вярнуліся? — спытаў я.

— Не, загінулі...

Цягнік прыцішыў хаду. Я падхапіў сумку, Ганна Дзянісаўна ўскінула на руку паліто і разам са студэнткай ішла за мной. Мы стаялі ў тамбуры. Міма праплыў невялікі вакзал з яркай лямпачкай ля ўваходу. На цемнаватым пероне стаялі тры чалавекі: рослы мужчына ў расшпіленым плашчы, невысокая танклявая жанчына, за рукі іх трымала дзяўчынка ў чырвонай шапачцы.

— Гэта мае. Вера, унучка Волька, зяць Сяргей...

На імгненне ўбачыў я палаючую хату, хлопчык цягне за руку дзяўчынку Вольку, абрушваецца ганак, і ў полымі гасне немы крык...

Заспаная праваднiца адчыніла дзверы, я вынес сумку. Ганна Дзянісаўна ўжо развіталася са студэнткай, спускалася па прыступках.

— Ну, бывайце здаровенькі! — Ганна Дзянісаўна падала мне маленькую шурпатую далоньку.

— Хутчэй, хутчэй. Стаім адну хвіліну,— нецярпліва буркнула праваднiца.

Студэнтка сядзела на сваім месцы, калі я вярнуўся ў купэ.

На століку пагойдваліся дзве вялікія чырванабокія грушы.

# ШЛЯХІ-ДАРОГІ МАКСІМА ТАНКА

МАКСІМ ТАНК

**Здаецца, зусім нядаўна шматлікія чытачы рэспублікі і госці Беларусі змаглі пазнаёміцца з фотаальбомам «Іван Мележ» — першым з серыі выданняў, якія расказваюць пра жыццёвы і творчы шлях найбольш вядомых майстроў слова, а выдавецтва «Беларусь» падрыхтавала чарговы. На вокладцы так добра знаёмы партрэт чалавека, імя якога вядома аматарам паэзіі не толькі ў Савецкім Саюзе, але і далёка за яго межамі. Уверсе словы — «Максім Танк».**

**Як і ў папярэднім альбоме, змешчаны артыкул, у якім прасочваюцца найбольш значныя эпізоды з біяграфіі творцы — жыццёвай і мастакоўскай, аналізуюцца кнігі, высвятляецца роля і месца ў кантэксце савецкай і сусветнай літаратуры. Аўтар артыкула — даўні даследчык творчасці Максіма Танка і рупны працаўнік на літаратуразнаўчай ніве Вячаслаў Рагойша — адмаўляецца ад храналагічнага прачытання шляху паэта. Адбываецца тая нязмушаная гаворка з чытачом, калі на першы план выходзяць асабістыя ўражанні. Тым не менш яны набываюць абагульняючы сэнс, бо мацуюцца на трывалай аснове, назва якой талент творцы.**

**Запрашаючы да ўваходзін у свет творчасці Максіма Танка, В. Рагойша ў самым пачатку артыкула заўважае: «Максіма Танка я найчасцей і найвыразней уяўляю ў дарозе. Калі б я быў мастаком - партрэтыстам, так бы і маляваў паэта: ці на палявой сцежцы, да якой прыпадае густая азіміна, ці на забрукаваным гасцінцы з «екацярынінскімі» бярозамі, ці ў сучасным самалёце, за ілюмінатарам якога адліваюць белізною перыстыя воблакі, ці на палубе марскога лайнера, на фоне зялёнай вады, чаек, яркага сонца... Вобраз дарогі, як ніякі іншы, стасуецца мабільнай, рухомай натуры Максіма Танка, які, па яго ўласным прызнанні, «відаць... пад сонцам цыганскім радзіўся», бо ўсе свае дні «размяняў на вандроўкі, паходы». Рухам прасякнута ўся паэзія Максіма Танка, ад яе першых давераснёўскіх узораў і да твораў нашых дзён».**

**Працяг знаёмства з Максімам Танкам—шматлікія здымкі, выкананыя У. Крукам, В. Жукам, В. Бараноўскім, В. Рагойшам, а таксама ўзятыя з асабістага фонду паэта, якія захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.**

**Каля ста работ прадстаўлена ў альбоме. Некалькі зроблена ў колеры — гэта маляўнічыя краявіды мясцін паблізу Нарачы, зямля Мядзельшчыны, дзе паэт нарадзіўся, адчуў пяшчоту матчынай мовы, адкуль пайшоў у вялікі свет жыцця і творчасці. Астатнія — расказ пра пэўныя перыяды біяграфіі творцы. Уяўляюць цікавасць тыя здымкі, што даюць мажлівасць даведацца пра рэвалюцыйную дзейнасць паэта. Значная ж частка прысвечана падзеям, якія адбываліся ў апошні час, калі М. Танк прымаў удзел у пісьменніцкіх з'ездах і пленумах, выязджаў у іншыя саюзныя рэспублікі, шмат сустракаўся і сустракаецца з чытачамі.**

**У альбоме змешчаны таксама некалькі вершаў Максіма Танка, што пісаліся ў розныя гады — «Радзіма», «Не толькі ўзяў таму я гэту мову...», «Рукі маці», «Добрай раніцы», «Пры вогнішчы», «Мой хлеб надзённы» і іншыя, што дазваляюць адчуць, наколькі шматгранны ўнутраны свет лірычнага героя паэта.**

**Г. ЛУКАШОЎ.**

НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

# Забаўляць? Не, выхоўваць!

Гэты цыкл перадач нарадзіўся з пісем тэлегледачоў. Пісем розных. Большасць аўтараў імкнулася далучыцца да мастацтва, хоць крыху спасцігнуць ягоныя таямніцы. Але ж былі і такія, якія дасылалі на адрас рэдакцыі ваяўнічыя пісьмы, заклікі наогул забыць пра класічную музыку. Вось, напрыклад, радкі з ліста І. Максімава з Салігорска: «Паважаныя работнікі тэлебачання! Шмат гадоў збіраюся напісаць вам скаргу вясковага працаўніка, ды і гарадскога рабочага на перадачы, што ствараюць для нас. Нарадзіліся многія з нас у вёсках, гарадскіх пасёлках, там жа і вучыліся. Некаторыя пачыналі будаваць новыя гарады: Салігорск, Светлагорск, Наваполацк і іншыя. А пабудавалі — і засталіся жыць там. Гарады новыя, культура новая, а нам навязваюць музыку Бетховена, Моцарта, Шуберта, Чайкоўскага. Шчыра скажу — вясковаму жыхару такая музыка не патрэбна...»

Тут трэба сказаць пра тое, што тэлегледачы вядуць з музычнай рэдакцыяй Беларускага тэлебачання ўсхваляваную і вялікую перапіску на працягу многіх гадоў. На ўласныя вочы я бачыла сотні лістоў гледачоў, якія прасілі, каб з экранаў гучала больш той ці іншай музыкі (густы, вядома, розныя). І музычная рэдакцыя Беларускага ТБ імкнулася ўсе гэтыя пажаданні задаволіць. Назаву некаторыя з пастаянных рубрык, якія існуюць зараз: «Вечары камернай музыкі», «Камертон», «Ля раскрытай партытуры», «Музычнае мастацтва народаў СССР», «Выязны канцэрт», «Нашы госці», «Музычныя спектаклі», «Сустрэнемся пасля адзінаццаці», «Соль у мажоры». А колькі канцэртаў па заяўках, канцэртаў беларускіх калектываў і выканаўцаў як прафесійных, так і самадзейных, паказ новых твораў беларускіх кампазітараў, перадач пра значныя падзеі ў музычным жыцці рэспублікі... І вось што цікава: чым больш пашыралася кола перадач і час музычнага вяшчання, тым больш павялічваўся паток пісем тэлегледачоў. Але змест іх набываў новы напрамак, які ў цэлым можна сфармуляваць так: мы хочам не толькі слухаць, але і разумець музыку, дайце нам ВЕДЫ пра яе.

Доўгі час музычная рэдакцыя знаходзілася ў творчым пошуку, у выніку якога ў 1981 годзе выйшла ў эфір перадача «Усё пра музыку ад «А» да «Я».

Стваральнікі яе вельмі хваляваліся, як сустрэнуць гледачы. Але водгукі, якія прыйшлі адразу пасля выхаду ў эфір першай праграмы, паказалі, што шлях знойдзены правільны. Прывяду радкі з ліста І. Булаўкі, былой выкладчыцы матэматыкі педагагічнага вучылішча Віцебска: «З вялікім задавальненнем і цікавасцю глядзела і слухала вашу перадачу. Адразу скажу, што ў музыцы я не знаўца, і, на жаль, не знаходжуся ў тым узросце, калі ўсё наперадзе. Але музыку я люблю і жадаю ўсё ведаць, нягледзячы на свой пенсійны ўзрост. Ваша перадача мне спадабалася. Я вырашыла прыняць у ёй удзел, і не толькі адказаць на пытанні, але і паспрабаваць скласці красворд на літары «Б» і «В»... А вось што піша Г. Круковіч з вёскі Грынёўшчына Докшыцкага раёна: «Мне здаецца, гэта перадача патрэбная. Даўно яе чакалі. Дзякуй вам за яе. У эстрадзе я трохі разбіраюся, а вось у класічнай музыцы адчуваю сябе няўпэўнена. Дзякуючы вашай перадачы я пастараюся паглыбіць свае веды».

Пасля кожнага выхаду ў эфір чарговай перадачы цыкла ў рэдакцыю прыходзілі новыя пісьмы. Кола зацікаўленых у ёй карэспандэнтаў паступова пашыралася. «Я рабочы і па роду сваёй прафесіі не звязаны з музыкай, але з вялікай цікавасцю гляджу кожную вашу перадачу, — піша В. Тэлічан з Брэста, — бо ведаю, што абавязкова пачую нешта новае, раней мне невядомае. Зразумела, пра ўсё, аб чым ідзе гутарка ў вашых праграмах, можна дазнацца з кніг, даведнікаў, але проста так ніхто не пойдзе корпацца на паліцах бібліятэк. Ваша перадача з'явілася штуршком для паглыблення, пашырэння нашых ведаў. Яна прымушае пасядзець у чытальнай зале, пагартаць кнігі, часопісы».

Тыя, хто сталі пастаяннымі слухачамі і нават у некаторым сэнсе субяседнікамі вядучых тэлепраграмы «Пра музыку ад «А» да «Я» В. Скварцовай і У. Шаліхіна, — людзі розных узростаў, прафесій і адукацыі. Імёны найбольш актыўных удзельнікаў неаднойчы называліся ў ходзе саміх перадач. Усе яны пастаянна звяртаюцца ў рэдакцыю і ў сваіх пісьмах даюць ацэнкі новым праграмам, прапануюць віктарыны, красворды, тэмы сюжэтаў. Але пры гэтым, што, на мой погляд, вельмі важна, разважаюць пра ролю музыкі ў жыцці чалавека, пра яе вялізныя магчымасці рабіць чалавека больш чыстым і шчырым. «Нездарма ў адной з папярэдніх перадач вы прачыталі санет Шэкспіра, — піша В. Баранава з Маладзечна. — У гэтых радках — вялікі сэнс. Я таксама лічу, што чалавек, які адчувае цудоўнае, не можа быць дрэнным». Другія, як, напрыклад, настаўніца з Магілёва З. Пыжова, у сваіх пісьмах выказваюць заклапочанасць у сувязі з разважаннямі некаторых іх выхаванцаў, якія лічаць, што сёння без сімфоній Моцарта і опер Чайкоўскага яны вельмі добра пражывуць: маўляў, былі б грошы, а музыка, калі і патрэбна, дык толькі для забавы. І, зразумела, эстрадная. Думку такіх маладых людзей выказвае А. Алёхін з Барысава: «Я ніколі не пісаў такіх пісем, але вы мяне прымусілі. Я так мяркую, што перадача гэтая для моладзі, а не для людзей старэйшага ўзросту. Дык навошта моладзі ваш «Паланез» Агінскага? Моладзь сядзіць і слухае, сцяўшы зубы, вашы рэбусы пра андантэ і акардэоны і чакае чаго-небудзь... Напрыклад, «Сяброў» і «Верасоў», не кажу ўжо пра «Смокі», «Боні-М» і гэтак далей». І ўжо зусім катэгарычна ставіць пытанні нейкі хлопец з Віцебска, які сваё прозвішча не паведаміў. Ён піша: «Нядаўна паглядзеў вашу перадачу. Яна мне вельмі не спадабалася. Хачу спытаць: што гэта такое? Навошта вы гвалціце моладзь?»

Чаму праграма «Пра музыку ад «А» да «Я» выклікае адначасова і вялікую зацікаўленасць і рашучае непрыманне? І яшчэ. Чаму гэтая перадача ўсіх, хто яе бачыў, не пакідае абыякавым?

Пэўныя адказы на такія пытанні можна знайсці ў радках з лістоў тэлегледачоў. Сябры перадачы далі ёй (на мой погляд, вельмі дакладную) назву — «хатні музычны універсітэт». 28 разоў выходзіла перадача «Пра музыку ад «А» да «Я» ў эфір. За гэты час больш за 120 розных сюжэтаў было прапанавана ўвазе гледачоў. Вядучае месца, і гэта зразумела, займае гутарка пра жыццё і творчасць кампазітараў мінулага і сучаснасці. У гэтай частцы праграмы яе аўтары даюць слухачам магчымасць не толькі сустрэцца з адвечным і нязгасным светам мастацтва гігантаў музычнай класікі, такіх, як Бах, Бетховен, Гендэль, Вердзі, Р. Вагнер, Брамс, Берліёз, Барадзін, і адначасова знаёмяць з кампазітарамі, чый уклад у скарбніцу музычнага мастацтва хоць і больш сціплы, але даволі каштоўны, і без іх — Бартнянскага, Будашкіна, Вівальдзі, Вэбера, Вярстоўскага, Вяняўскага, Грачанінава і інш. — агульная панарама гісторыі развіцця музыкі была б пазбаўлена неабходных і каларытных нюансаў.

Творчыя дасягненні беларускіх кампазітараў займаюць на старонках перадачы пачэснае месца: амаль трэцюю частку ўсіх сюжэтаў. Слухачы пазнаёміліся ўжо з мастацтвам Аладава і Алоўнікава, Абеліёвіча і Буцвілоўскага, Багатырова і Будніка, Войціка і Вагнера, Глебава і Гарэлавай. І што асабліва прыемна, гаворка пра іх ідзе заўсёды рознабаковая, дакладная і зацікаўленая. Калі ёсць магчымасць, дык на перадачу запрашаецца сам кампазітар, які расказвае пра свае творчыя мэты, погляды, пакуты і поспехі. Ад гэтага такія сюжэты набываюць асаблівую каштоўнасць для гледачоў. Тое ж трэба сказаць і аб сюжэтах пра беларускіх майстроў-выканаўцаў, пра якіх ужо расказвала праграма. Перадача робіць вельмі добрую і важную справу: актыўна і надзвычай цікава прапагандуе нацыянальную беларускую музыку сярод шырокага кола тэлегледачоў, якія адразу адгукаюцца і ў сваіх лістах дзеляцца думкамі, уражаннямі ад праслуханага і ўбачанага, выказваюць пажаданні кампазітарам.

Крыху больш спецыфічная па змесце тая частка праграмы, у якой ідзе гаворка пра музычныя паняцці і тэрміны, жанры і формы. Стваральнікі перадачы не баяцца ўключыць у яе сюжэты, дзе «героямі» з'яўляюцца аперэта, араторыя, арыя, балет, вадэвіль, вальс, гапак, не кажучы ўжо пра арпеджыо, акорд, андантэ, алегра, апафеоз, бекар і варыяцыі. Не баяцца таму, што кожны раз знаходзяць цікавыя і арыгінальныя сродкі для іх увасаблення на экране.

Не разумею, чаму скардзяцца прыхільнікі эстрады, бо яна як роўная сярод роўных існуе ў праграмах. Сюжэты, прысвечаныя эстрадзе, абавязкова прысутнічаюць у кожнай перадачы. Ужо прайшлі гутаркі пра такія ансамблі, як АББА, «Арэра», «Аўтограф», «Арызонт», «Аракс», «Апельсін», «Бакара», «Боні-М», «Бітлз», «Верасы», гучалі песні ў выкананні Адамо, Азнавура, Антонава, Бічэўскай, Баярскага, Бэко, Вескі, Высоцкага, Вуячыча, Гардзіяна, Герман. А наперадзе, я ўпэўнена, тэлегледачоў чакаюць яшчэ больш цікавыя сустрэчы.

Нарэшце, ёсць у праграме «Пра музыку ад «А» да «Я» яшчэ адзін раздзел. У ім ідзе размова пра музычныя інструменты, без якіх немагчыма ўявіць сабе музычнае мастацтва. А ў кожнага інструмента ёсць свой характар, свая галіна выкарыстання, шэраг выдатных «гаспадароў»-выканаўцаў, нават надзвычай цікавыя гісторыі, якія мала вядомы шырокаму колу слухачоў. Той, хто бачыў перадачу, у якой ішла размова пра аркестр, ніколі не забудзе незвычайнага падарожжа ў Ленінградскі музей музычных інструментаў і знаёмства з унікальнай з'явай рускай музычнай культуры XVIII стагоддзя — аркестрам паляўнічых рогаў, у той час вельмі распаўсюджаным у панскім побыце. Таксама не забудзе і расказа пра гісторыю скрыпкі і дынастыю скрыпічных майстроў Амаці. А колькі цікавага і невядомага даведаліся гледачы з расказаў пра арфу і арган, балалайку і бандуру, банджо і басэтлю, валторну, валынку і віяланчэль! Гісторыя інструментаў пераконвае гледача ў музычнай таленавітасці народа, расказвае пра яго душу і сэрца, якія ён укладаў у стварэнне інструментаў.

Каб увесь гэты разнастайны змест праграм дайшоў да розуму і сэрца гледачоў, стваральнікі перадачы, сярод якіх трэба назваць таксама і аўтараў сюжэтаў — В. Скварцову, Г. Ананьеву, Л. Барадзіну, Д. Падбярэзскага, А. Самкову, Т. Баляслаўскую, В. Савіцкую, рэжысёра Н. Гараднёву, рэдактараў—Н. Гурыну, Г. Хаймінаву, вядучага аператара В. Баранава, гукарэжысёра С. Беклямішаву, мастака Т. Гарачун і іншых, — не шкадуюць сіл і выдумкі. Выкарыстоўваецца ўсё, што найбольш дакладна адпавядае сцэнарыю: трапнае слова, таленавітыя музыказнаўцы і музыканты-выканаўцы, драматычныя акцёры, кіна- і фотадакументы, прыклады з літаратуры і жывапісу, гумар. Для ўдзелу ў праграмах запрашаюцца навуковыя супрацоўнікі, людзі, якія непасрэднага дачынення да музыкі не маюць, але маюць амаль энцыклапедычныя веды пра мастацкую культуру наогул. Зноў успамінаецца падарожжа ў Ленінград і расказ пра кампазітара Вярстоўскага, рэжысёра тэатра і кіно, выкладчыка Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кіно А. Рэсара. Тут трэба сказаць, што ўсякі раз, калі перадача выходзіць за межы студыі, ідзе з іншых гарадоў, ці здымаецца на месцах, дзе жылі і працавалі выдатныя музыканты, яна набывае асаблівую дынамічнасць і прывабнасць. На жаль, як скардзіліся стваральнікі перадачы, магчымасці рабіць такое часцей у рэдакцыі мала.

І зноў радкі з ліста: «З дапамогай вашай перадачы я пачаў цікавіцца музыкай кампазітараў-класікаў, пачаў глядзець на яе, як на музыку вельмі неабходную і сёння, бо яна дапамагае жыць».

У перадачы «Пра музыку ад «А» да «Я» — шматлікая аўдыторыя. Толькі ў Мінску, як сцвярджае статыстыка, яе глядзяць каля 30 тысяч чалавек. Зразумела, што гэтая лічба ў некалькі разоў павялічваецца, калі гаварыць пра ўсю рэспубліку. Але я перакананая ў тым, што гэтая перадача можа прынесці значна большую карысць, калі яе аўдыторыя пашырыцца. Можна прапанаваць тэлебачанню ўвесці яе ў рамкі вучэбных праграм для паказу вучням старэйшых класаў агульнаадукацыйных школ, бо прадмет «Музыка» яны ўжо не вывучаюць, а патрэбы ў музычна-эстэтычным выхаванні не памяншаюцца, а павялічваюцца. Праграма «Пра музыку ад «А» да «Я» можа ў гэтым напрамку зрабіць вельмі важную справу.

**Наталля ПЕРВЯКОВА,**
**музыказнавец.**

# Восем стрэлаў у паветра

19 СНЕЖНЯ 1984 года а сёмай гадзіне вечара каля гандлёвага цэнтра «Верас» у Мінску цішыню раптам парушылі пісталетныя стрэлы — спачатку два запар, а праз некалькі хвілін яшчэ шэсць.

Перш, чым расказаць пра тое, што тут адбылося, я пазнаёмлю чытача з дзейнымі асобамі гэтай гісторыі.

Рэмез Аляксандр Георгіевіч, 23 гады. Старшы сяржант міліцыі, міліцыянер патрульна-паставой службы Першамайскага аддзела РАУС г. Мінска.

Шаціла Міхаіл Мікалаевіч, 22 гады. У Мінску без пэўнага месца жыхарства, не працуе.

Баброўіч Сцяпан Сцяпанавіч, 21 год. У Мінску без пэўнага месца жыхарства, не працуе.

Джумаў Сяргей, 18 гадоў. Студэнт Мінскага будаўнічага тэхнікума будматэрыялаў.

Джумаў Аляксандр, 16 гадоў. Студэнт Жодзінскага палітэхнікума.

Джумаў Віктар Усцімавіч, 47 гадоў. Бацька Сяргея і Аляксандра Джумавых. Маёр унутранай службы, супрацоўнік Міністэрства ўнутраных спраў БССР.

Даўгалёва Жанна, 18 гадоў, Рыбінская Алена, 18 гадоў,— навучэнкі Мінскага гандлёвага вучылішча.

Вось такая экспазіцыя нашага расказу.

**... Не ведаю, мо і не спецыяльна пункт аховы грамадскага парадку адкрылі менавіта каля «Верасу» з яго рэстаранам і барам, але толькі няма, мусіць, такога вечара, каб міліцыі не прыходзілася наводзіць тут парадак. Як матылёў на святло ліхтара, цягне сюды апівох з усяго мікрараёна.**

**Участковы інспектар В. Каровін аднойчы, паказваючы свае «ўладанні» завёў мяне па дарозе ў гэты рэстаран. Самы звычайны мікрараённы рэстаран — з аркестрам, ад якога, здаецца, вось-вось аглухнеш, з інтымным паўзмрокам і іншым рэстаранным шыкам. Наведвальнікі — у асноўным маладыя людзі, як цяпер кажуць, — «мальчики», да нашага прыходу, відаць, няблага ўжо «ўзялі» і цяпер танцавалі, моцна прыціскаючы да сябе партнёрак, некаторыя з якіх былі, як мне падалося, «спецыфічнага выгляду».**

**Сёння, мабыць, не знойдзеш рэстарана, нават у раённым цэнтры, які б не ўразіў наведвальніка драўлянымі панелямі, чаканнымі пано, мудрагелістымі свяцільнікамі і г.д. Я аднойчы пацікавіўся ў дырэктара рэстарана, у якую капеечку ўляцеў яму такі інтэр'ер? Ён назваў даволі вялікую лічбу. Убачыўшы, як выцягнуўся мой твар, з гонарам сказаў: «Каб людзі маглі культурна бавіць час».**

**Відаць, мяркуецца, што пры аркестры, у крэслах пад старыну, сурвэтках ніхто не дазволіць сабе пакласці локці на стол, відэлец абавязкова будзе трымаць у левай, а нож — у правай руцэ, дзякаваць афіцыянтцы пры *кожным яе з'яўленні* ля століка і г.д. Адным словам, пры такім інтэр'еры людзі на вачах будуць рабіцца больш культурнымі. Таксама і ў барах (як усё-такі хутка ўвайшло ў наш побыт гэтае англійскае слова), дзе і паліраваная стойка, і батарэі імпартных бутэлек, і спрытная буфетчыца (даруйце, барменка), якая з заклапочаным тварам ледзь паспявае наліваць у «стаканы», вядома ж, чыстую гарэлку.**

**Дзіву даешся здольнасцям нашага гандлю да камуфляжу. У Мінску, на вуліцы імя Сурганава, нядаўна ўбачыў я на адным з дамоў маляўнічую шыльду «Бутэрбродная», а ніжэй — тлумачэнне, што называецца яна «Свіцязянка» і функцыяніруе ад рэстарана «Свіцязь». Пасля дзяжурства хацелася есці, і мы з таварышам, глытаючы слінку, не марудзячы, адчынілі дзверы. Адразу шыбануў у нос «спесфический» пах гарэлкі, якую, стоячы ля высокіх столікаў, пілі з фужэраў «мужыкі». Прыстроіўшыся да чаргі, я спытаў аднаго з наведвальнікаў, колькі наліваюць, так сказаць, у адны рукі? «Фармальна па 150 грамаў, але можаш узяць і дзве порцыі», — сказаў чалавек, падазрона на мяне пазіраючы.**

**Фармальна... Скажыце, у якім рэстаране ці бары захоўваецца некалі ўстаноўленая і нікім не скасаваная норма — адпускаць на аднаго наведвальніка за вечар не больш 150 грамаў гарэлкі?**

**Адным словам, захацелася апівоху напіцца «вусмерць» — можа зрабіць гэта ў «культурных умовах»: у рэстаране, бары ці ў «бутэльброднай»...**

Вось і крымінальная гісторыя, пра якую я сёння апавядаю, пачалася ў бары рэстарана «Верас».

**«19 снежня 1984 года я дзяжурыў па вуліцы Славінскага ў раёне гандлёвага цэнтра «Верас». У 18.10 да мяне падышла незнаёмая грамадзянка і паскардзілася на тое, што ў тутэйшым гастраноме некалькі п'яных хлопцаў футболяць старую пальчатку, якой трапілі ёй у твар. Я зайшоў у магазін і ўбачыў там п'яных, якія паводзілі сябе нахабна і бесцырымонна, штурхалі пакупнікоў, падфутбольваючы старую пальчатку. Я зрабіў ім заўвагу, яны адразу кінуліся да дзвярэй, і калі я выйшаў следам, дык заўважыў, што пяць ці шэсць хлопцаў і з імі дзве дзяўчыны накіраваліся ў рэстаран «Верас». Калі я зайшоў туды, дзяўчаты ўжо распрануліся, а адзін з хлопцаў — худы, бялявы, у джынсах і вельветавай куртцы — лез на чацвярэньках па лесвіцы на другі паверх, дзе размешчаны бар. Я падышоў да яго і зрабіў яму строгую заўвагу, загадаўшы выйсці з памяшкання. У гэты момант другі хлопец гадоў 22—23-х, у чорнай балоніевай куртцы, каржакаваты, схапіў мяне за каўнер і штурхнуў да сцяны пад *крыкі ўсёй кампаніі:* «Бі мента!» Я зрабіў спробу затрымаць хулігана, але ён вырваўся і пабег на вуліцу. Я кінуўся следам, але на вуліцы мяне ззаду ўдарыў па галаве бялявы, а яшчэ нехта з гэтай кампаніі сарваў з кажуха пагон, рацыю, якой ударыў мне па твары. Я ўпаў і на нейкі момант страціў прытомнасць. Калі ачомаўся, адразу схапіўся за кабуру — ці на месцы зброя, кабура была расшпілена. У гэты момант нехта крычаў: «Забірай у яго зброю!» Я адштурхнуў нападаючых і, выхапіўшы пісталет, лежачы на снезе, зрабіў два папераджальныя стрэлы. Пасля гэтага яны адбегліся на некалькі крокаў, а я падняўся на ногі і паклаў пісталет у кабуру. Убачыўшы гэта, хлопцы зноў накінуліся на мяне, падсечкай паваліўшы на зямлю...»**

**(З паказанняў А. Рэмеза следчым органам).**

Мы яшчэ вернемся да яго паказанняў, а пакуль што зробім тут, кажучы мовай кіно, стоп-кадр.

## Стоп-кадр першы.

Вось яны, буйным планам — каржакаваты, у чорнай балоніевай куртцы — Шаціла Міхаіл і худы, белабрысы, у джынсах — Баброўіч Сцяпан. Я іх не пабачыў — яны былі ўжо асуджаны, але, чытаючы-перачытваючы крымінальную справу, у думках прасачыў увесь іх жыццёвы шлях аж да таго самага дня 19 снежня.

У абодвух у крымінальнай справе пазначана: «Без пэўнага месца жыхарства, не працуе». Гэта не зусім дакладна. Месца жыхарства ў іх ёсць — вёска Лусцічы Докшыцкага раёна. Ёсць у іх там хаты, дзе нарадзіліся на свет, жывуць там іх маці. У Мінск яны прыехалі (літаральна за дзень да нападзення на міліцыянера — 18 снежня), каб, як яны *паказалі* на следстве, «уладкавацца на працу і прапісацца».

Які гэта чалавек? Ужо фактычна не вясковец, але яшчэ і не гараджанін. Які ў яго жыццёвы стрыжань, што рухае яго ўчынкамі? Складаныя пытанні. У дадзеным выпадку мне вельмі б хацелася ўсё вытлумачыць тым, што горад, бывае, псуе, ламае чыстых вясковых хлопцаў. Ды такое тлумачэнне тут не падыходзіць — якія там яны чыстыя? Шаціла, напрыклад, некалькі гадоў назад быў асуджаны за ўдзел у групавым згвалтаванні ў сваёй жа вёсцы.

Я чытаў копію прысуду па гэтай справе. Ён тады атрымаў чатыры гады (быў непаўналетні). Адседзеў толькі два з паловай.

**Я пазваніў у Бягомльскі пасялковы Савет, у які ўваходзяць Лусцічы, гаварыў з намеснікам старшыні Аленай Дзмітрыеўнай Ціханавец. Яна вельмі шкадавала маці і Шацілы, і Баброўіча. Маці Міхаіла засталася адна, яна вельмі хворая, няма каму яе даглядаць, праўда, ёсць яшчэ тры дачкі, але дзве жывуць у Мінску, адна — у Літве. Такая ж гісторыя з сям'ёй Баброўічаў — таксама ўсе дзеці раз'ехаліся.**

**Не вельмі, відаць, уяўляючы дакладна межы кампетэнцыі газеты, Алена Дзмітрыеўна *пачала* мяне прасіць, каб я ці не адпусціў хлопцаў з турмы, бо «чаго не бывае па п'янцы». Ведаючы, што Шаціла мае спецыяльнасць экскаватаршчыка, а Баброўіч быў вучнем слесара, я спытаў у яе, ці знайшлася б ім праца ў саўгасе «Бягомльскі», дзе яны жылі? Яна адказала адмоўна, маўляў, у саўгасе і так лішак рабочай сілы, тым больш у іх далёкай ад цэнтра саўгаса вёсцы.**

**Пазваніў я і ў саўгасную кантору, натрапіў на бухгалтара Сцяпана Мікалаевіча Герасіменку. Перадаў яму размову з Ціханавец. Бухгалтар быў вельмі здзіўлены.**

**— Гэта ў нас *лішак* рабочай сілы? — перапытаў ён. — Ды ў час палявых работ трымаемся на студэнцкай дапамозе. І механізатараў у нас не хапае...**

Відаць, чытачу будзе цікава даведацца і аб рашэнні суда па гэтай справе.

Хоць іх судзілі па артыкуле 187[1] частка II КК БССР (аказанне супраціўлення работніку міліцыі пры выкананні ім службовых абавязкаў, спалучанае з насіллем і г.д.), яны атрымалі не максімум, прадугледжаны артыкулам (тут — 5 гадоў), а меней: рэцыдывіст Шаціла — 4 гады, а Баброўіч нагул асуджаны ўмоўна на тры гады з прыцягненнем да працы на будоўлі.

Аргумент суддзі Першамайскага суда г. Мінска Л. Фядэчкі, які вёў гэтую справу, — напалі злачынцы на Рэмеза таму, што ён хацеў іх затрымаць, што ў Шацілы і Баброўіча не было загадзя сфармуляванай задумы забіць міліцыянера, — *мне здаецца вельмі слабым.* Атрымліваецца, што Рэмез справакаваў нападзенне, а не выконваў свой службовы абавязак. Не было ў злачынцаў папярэдняй змовы забіць міліцыянера? Што ж з таго? Я не ўпэўнены ў тым, што Рэмез *застаўся б жывы, калі б* гэтай п'янай хеўры ўдалося б яго абяззброіць. А спроба такая была.

**«... Шаціла і Баброўічу актыўна дапамагаў чарнявы хлопец у кірзавых ботах. Ён спачатку ўдарыў нагой па радыёстанцыі, каб вывесці са строю, пасля сарваў яе з пляча і шпурнуў на зямлю, хапаў мяне за тулава, каб зваліць. Гэтага хлопца я ведаў у твар, бо ён жыве на маім участку. Пасля я даведаўся, што прозвішча яго Джумаў, а імя — Сяргей... Нарэшце, мне зноў удалося стаць на ногі, я адбег убок, выцягнуў пісталет і зрабіў яшчэ шэсць стрэлаў у паветра, разрадзіўшы ўсю абойму. Пасля гэтага на дапамогу мне прыйшлі двое мужчын з натоўпу, мы схапілі Шацілу і Баброўіча і павялі іх у апорны пункт міліцыі. Па дарозе Джумаў Сяргей хапаў мужчын, якія дапамагалі весці злачынцаў, рабіў ім падножкі, а яго малодшы брат Аляксандр у гэты час крычаў: «У мяне бацька маёр міліцыі, ён цябе вытурыць са службы!».**

**(З паказанняў А. Рэмеза следчым органам).**

## Стоп-кадр другі.

Сяргей і Аляксандр Джумавы. Сяргей — хударлявы чарнявы хлопец з вусікамі на панурым твары, Аляксандр — нізкарослы, круглатвары, з нейкай няпэўнай усмешкай на вуснах. У 1984 годзе за сістэматычнае ўжыванне алкаголю абодва былі ўзяты на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх Першамайскага РАУС г. Мінска.

**Сустрэўся я з імі, кажучы мовай пратакола, на месцы іх пражывання. Пашанцавала — дома былі і бацькі братоў: Віктар Усцімавіч Джумаў, маёр унутранай *службы, супрацоўнік* Міністэрства унутраных спраў БССР, маці—Марыя Пятроўна Джумава, кантралёр платнай аўтастаянкі.**

**Лейцы ў размове адразу ўзяў Віктар Усцімавіч, у спартыўным касцюме, лысаваты мужчына гадоў пад пяцьдзесят. Звяртаючыся да сыноў і час ад часу *паглядаючы на мяне, ён* з пафасам гаварыў пра камсамольскі гонар, абавязак добра вучыцца і паводзіць сябе, нарэшце, пра адказнасць, якую яны, дзеці адказнага работніка, павінны пастаянна адчуваць.**

**Прыйшоў я сюды разам з участковым, лейтэнантам В. Каровіным, але на яго маёр не звярнуў увагі, увесь свой манолог ён адрасаваў мне.**

Я слухаў правільныя словы старэйшага Джумава, слухаў, як ён лаяў сыноў, дарэчы, час ад часу вельмі трапна ўстаўляючы слоўцы ў іх абарону, і ўспамінаў, як Аляксандр Рэмез расказаў мне, што яшчэ ў час следства да яго прыходзіў маёр Джумаў, прапануючы грошы, калі той абыдзе маўчаннем удзел у бойцы Сяргея Джумава. Сведка Жанна Даўгалёва гаварыла, што ўпершыню ўбачыла бацьку Сяргея Джумава ў пракуратуры, куды яе выклікалі на допыт, там ён быў са сваімі сынамі.

Шматлікія сведкі паказалі, што Сяргей Джумаў прымаў удзел у нападзе на міліцыянера і калі не быў на першых ролях, дык на другіх.

**Сведка А. Батурын: «Я бачыў, як з рэстарана выбегла п'яная кампанія і накінулася на міліцыянера ўсёй кучай, зваліўшы яго з ног. Акрамя хлопца ў чорнай куртцы, яго білі яшчэ НЕКАЛЬКІ чалавек. Хлопец у ботах біў ляжачага нагамі. П'яныя паводзілі сябе, як шалёныя сабакі».**

**Сведка Р.Ермаловіч: «Тут жа (у вестыбюлі рэстарана. — М. З.) каля Рэмеза стаяла некалькі п'яных маладых людзей, апранутых у кароткія курткі. Яны спрачаліся з работнікам міліцыі, паводзілі сябе вельмі задзірыста, агрэсіўна. Бачыла я, як яны ўсе разам хапалі яго за кажух, пагражалі, нецэнзурна лаяліся. Калі я выйшла праз некалькі мінут на вуліцу, дык убачыла, што на зямлі ляжыць Рэмез, якога таўкуць нагамі ТРОЕ мужчын».**

**Сведка Р. Лісава: «...Я ўбачыла, як на снезе ляжыць работнік міліцыі, якога б'юць НЕКАЛЬКІ чалавек. Мне падалося, што іх было не менш чым ТРОЕ».**

**Сведка Ю. Кузняцоў: «Рэмез, магчыма, і даў бы рады хлопцу ў чорнай куртцы, але вакол былі ягоныя СЯБРЫ, таксама п'яныя і, я помню, ЯНЫ наносілі ўдары міліцыянеру і не давалі яму схапіць злачынцу». (Усюды падкрэслена мною. — М. З.).**

Заўважым, што ва ўсіх без выключэння паказаннях сведкаў фігуруюць не менш як трое злачынцаў. Сведка А. Юшко ўспомніў, што на вуліцы адзін з п'яных хлопцаў — чарнявы, без шапкі, у расхрыстаным кажушку — трымаў міліцыянера, не даючы яму схапіць хлопца ў чорнай куртцы. Тым не менш, старшы следчы пракуратуры Першамайскага раёна г. Мінска Н. Нічыпарэнка складае такі дакумент: «Прымаючы пад увагу, што, акрамя супярэчлівых паказанняў пацярпеўшага А. Рэмеза, сведкі, дапрошаныя ў ходзе следства, аб дзеяннях С. Джумава растлумачыць нічога не змаглі, бо не запомнілі іх, крымінальную справу ў адносінах С. Джумава спыніць».

Уявім на хвілінку, што Сяргея Джумава сапраўды не было сярод тых, хто напаў на міліцыянера, а стаяў ён у гэты час сціпленька ўбаку, не вымавіўшы ні слоўца. Але зноў паўтараю: як паказваюць усе без выключэння сведкі, збівалі міліцыянера не менш як тры чалавекі. Дык хто ж той трэці? Хіба не абавязак следства быў усё-такі знайсці яго, каб не пазбегнуў ён лавы падсудных? Тым больш, што гэтая крымінальная справа не такая ўжо складаная. Усё адбывалася на вачах ці не сотні людзей, што сабраліся вакол.

Але шукаць, мне здаецца, нікога больш і не трэба было, усё і так навідавоку.

Што далей?

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

Цяпер наконт супярэчлівых паказанняў Рэмеза. Сапраўды, паміж некаторымі яго паказаннямі ёсць разыходжанні. Але тычацца яны, у асноўным, паказу паслядоўнасці дзеянняў злачынцаў, а таксама дэталей іх вопраткі. Тут мне вельмі хочацца запярэчыць следчаму. Няўжо Рэмез у такой нервовай, стрэсавай сітуацыі, калі ад удару страціў прытомнасць, калі некалькі разоў яго кідалі на зямлю, бязлітасна білі, ды яшчэ ў цемры — мог дакладна фіксіраваць кожны ўдар: хто біў першы, хто — другі, хто накінуўся ззаду, хто зрабіў падножку, нарэшце, у каго якая была шапка, боты? Скажам, як жанчыне, якая паскардзілася Рэмезу на п'яных хуліганаў, што ўсчалі ў магазіне гульню ў футбол, так і пасля яму самому падалося, што хлопцы білі нагамі па старой скураной пальчатцы, яна і фігуравала ў данясенні міліцыянера. Аказалася пасля, што гэта была не пальчатка, а стары чаравік. Дык мо з-за такой «памылкі» пастаўога гэты эпізод трэба было наогул выключаць з крымінальнай справы?

Я казаў ужо, што размаўляў з суддзёй Лявонціем Яўстаф'евічам Фядзечкам. Я спытаў у яго, што ён думае пра братоў Джумавых. Аказалася, Лявонцій Яўстаф'евіч не сумняваецца, што яны прымалі актыўны ўдзел у нападзе на міліцыянера, асабліва Сяргей Джумаў, і калі ён застаўся на волі, дык таму, што пракуратура адмовіла ва ўзбуджэнні супраць яго крымінальнай справы. Можна было, вядома, адаслаць справу на даследаванне, але вось не зрабілі... На развітанне суддзя, усміхнуўшыся, заўважыў, што можна не сумнявацца — калі-небудзь яны ўсё роўна трапяць на лаву падсудных. Маўляў, гэта такія хлопчыкі...

**Віктар Усцімавіч Джумаў наконт гэтага трымаецца, вядома, процілеглай думкі. Калі мы развіталіся, ён пранікнёна сказаў: «Паверце, той выпадак ля «Верасу» будзе маім хлопцам навукай на ўсё жыццё».**

**Я тады яшчэ не ведаў (а бацька Джумаў ведаў), што літаральна праз пяць дзён пасля нападу на міліцыянера Сяргей Джумаў быў затрыманы на вуліцы а дванаццатай гадзіне ночы моцна п'яны і адпраўлены ў аддзяленне міліцыі. Адсюль пратакол аб затрыманні быў перададзены ў камісію па справах непаўналетніх Першамайскага райвыканкома г. Мінска, дзе С. Джумаву была вынесена строгая вымова, а бацькі аштрафаваны на 30 рублёў. Акрамя таго, матэрыял аб паводзінах Сяргея камісія адаслала на месца службы яго бацькі — маёра Джумава. ДЫ ВОСЬ, УЖО ПАЙШОЎ ПЯТЫ МЕСЯЦ, А АДТУЛЬ, КАЖУЧЫ ПА-РУСКУ, «НИ ОТВЕТА, НИ ПРИВЕТА»...**

**Не ведаў я пры развітанні з паважаным Віктарам Усцімавічам (а ён ведаў), што яго малодшы — Аляксандр (таксама пасля здарэння ля «Верасу») непрыстойна паводзіў сябе ў інтэрнаце, дзе жывуць замежныя студэнты. да якіх ён прыйшоў быццам бы купляць джынсы (як паказала расследаванне, праведзенае Першамайскім РАУС, у А. Джумава пры сабе тады не было ні капейкі грошай).**

Дарэчы, суд пад старшынствам Л. Фядзечкі вынес прыватнае вызначэнне ў адрас інспекцыі па справах непаўналетніх Першамайскага РАУС г. Мінска, дзе, па меркаванні суда, не забяспечылі кантролю за паводзінамі Сяргея і Аляксандра Джумавых. Я не збіраюся тут браць пад абарону міліцыю, але, дальбог, прыватнае вызначэнне не можа не выклікаць усмешкі—няўжо інспекцыя магла лепш кантраляваць хлопцаў, чым іх бацька?

**«19 снежня 1984 года пасля заняткаў мая сяброўка Алена Рыбінская пацікавілася ў мяне, што я зараз збіраюся рабіць. Я сказала, што ў мяне ёсць знаёмы, з якім я пазнаёмілася на танцах у парку Чалюскінцаў, і хачу яму пазваніць. Я пазваніла з аўтамата Сяргею Джумаву і той нас абедзвюх паклікаў у госці. Калі мы туды прыйшлі, нейкія незнаёмыя мне два хлопцы, а таксама Сяргей, яго малодшы брат Аляксандр і іх сябра Сяргей Гарэлік пілі гарэлку, закусваючы яе цыбуляй. Мы з Аленай пайшлі на кухню мыць талеркі. Пасля нехта з хлопцаў прапанаваў пайсці ў бар «Верас», які размешчаны непадалёк. Да гэтага моманту мы пазнаёміліся ўжо з Мішам Шацілам, які пахваліўся, што быў асуджаны, і Сцяпанам Бабровічам.**

**Па дарозе ў бар Шаціла і Бабровіч *паводзілі сябе вельмі* непрыстойна: нецэнзурна лаяліся, куражыліся, чапляліся да прахожых...**

**(З паказанняў Ж. Даўгалёвай следчым органам).**

## Стоп-кадр трэці.

Жанна Даўгалёва і Алена Рыбінская. Як цяпер гавораць, — фірмовыя дзяўчаты. Як сказала іх класны кіраўнік Марыя Фёдараўна Стацко: «Я, чалавек *дарослы, ніколі не мела* такіх дарагіх абноў, як мае семнаццацігадовыя выхаванкі».

Мы сядзім у адным з вучэбных класаў вучылішча. Мы — гэта: намеснікі дырэктара па вучэбнай рабоце — Н. Валадзько, па выхаваўчай — Н. Вянчэцкая, майстар вытворчага навучання — Л. Маркевіч, згаданая ўжо класная кіраўніца і Жанна Даўгалёва (Алена Рыбінская месяц ці два назад была выключана з вучылішча за непаспяховасць). Педагогі адна перад адной кіляць абурэннем — гэта ж трэба, такая ганьба на ўсё вучылішча (суд у адрас вучылішча вынес таксама прыватнае вызначэнне, у якім гаворыцца, у прыватнасці, што «Даўгалёва і Рыбінская, з'яўляючыся членамі кампаніі, удзельнічалі ў распіцці спіртных напіткаў і будучы непаўналетнімі, знаходзіліся ў акружэнні асоб, якія ўчынілі злачынства»)...

«Што, хіба мала ў нас праводзілася розных вечароў, лекцый, гутарак і пра каханне, і пра сяброўства, і пра тое, якім павінен быць камсамолец?», — пытаецца адзін з педагогаў у Жанны, якая сядзіць, панурыўшы галаву. «Многа праводзілася», — гаворыць яна. «Праўда, цікавыя былі вечары?» — «Праўда, цікавыя», — адказвае дзяўчына, не падымаючы вачэй.

Я слухаю ўсё гэта і няўцям мне, адкуль гэтая дзявочая нясціпласць і непераборлівасць. Я маю на ўвазе не толькі тое, што яны пілі гарэлку амаль у незнаёмай кампаніі хлопцаў. У мяне не ідуць з галавы радкі паказання Жанны следчым органам, дзе яна расказвае, як яны ішлі да таго бара пад акампанемент брыдкай, цынічнай лаянкі хлопцаў. Дзе, калі агрубела душа ў васемнаццацігадовых дзяўчат?

Я пра гэта спытаў у яе. Недаўменна паглядзела на мяне: «Ведаеце, вельмі хацелася трапіць у бар, я ж ніколі там не была».

Потым, крыху памаўчаўшы, спытала: «Скажыце, а тэлевізар у Джумавых каляровы ці чорна-белы? Сяргей хваліўся, што каляровы». Мне заставалася толькі ўсміхнуцца. Я ведаў ужо, што ў час п'янкі бацькоў Джумавых не было, ад'язджаючы, яны зачынілі на ключ пакой, дзе знаходзіліся і тэлевізар, і магнітафон, і крышталь.

Вечары, лекцыі, даклады... Колькі іх было нават на кароткім вяку дзяўчыны! І ўсё—як гарох аб сцяну. А мо нешта мы не ўлічваем? Мераем усіх «воспитуемых» на адзін капыл? Скажам, і тых, каму пакуль што хапае лекцый пра каханне, і тых, хто даўно ад тэорыі перайшоў да практыкі. І калі тут патрэбны нейкія лекцыі, дык мо яшчэ і сексолага ці нават сексапатолага? Я вас шакіраваў, паважаны чытач? Як педагогаў гандлёвага вучылішча, калі сказаў ім пра гэта? Не трэба рабіць выгляду, што «сэксуальная заклапочанасць» выдумана цынікамі. Відаць, уся справа ў тым, каб выхаваць у той жа Жанне цывілізаванага чалавека, бо можна з той «заклапочанасцю» зусім распусціцца... Паўтараю, усё залежыць ад выхавання — і ў сям'і, і ў школе, і ў тым жа вучылішчы.

Я перачытваю напісанае і не магу пазбавіцца ад думкі, што ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць яшчэ адна, фігуральна кажучы, дзейная «асоба» — гарэлка. Сярод белага дня сямёра маладых людзей, сярод іх дзяўчаты і непаўналеткі, п'янствуюць. Фактычна для іх такое баўленне часу — норма. Але бяда не толькі ў гэтым, бяда і ў тым, што мы на працягу гадоў глядзелі на такія выпадкі ці не скрозь пальцы.

І зараз, калі ўвайшла ў сілу пастанова ЦК КПСС аб узмацненні барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, яшчэ больш разумееш яе неабходнасць і своечасовасць.

## Стоп-кадр чацвёрты.

На снезе ляжыць, трымаючыся за кабуру, міліцыянер, якога, не даючы яму падняцца, б'юць нагамі некалькі чалавек. Вакол моўчкі стаяць людзі. Гледачы, назіральнікі.

Я чытаю і перачытваю судовую справу і не магу зразумець псіхалогію тых людзей. Ну добра, былі там і жанчыны. Але ж і мужчын хапала. Што рухала тут кожным з іх? Якія эмоцыі валодалі імі, пра што думалі? Простая цікаўнасць, відовішча, якое можа паказытаць нервы?

Мне неаднойчы даводзілася чуць нават ад людзей, што лічылі сябе адукаванымі, абывацельскія развагі наконт міліцыі: маўляў, там такое робіцца... Што «робіцца», яны, вядома, дакладна не ведаюць. Але вунь адзін знаёмы расказваў...

Я далёкі ад думкі ідэалізаваць усіх без выключэння работнікаў міліцыі. Ёсць сярод іх, відаць, і людзі, якія не апраўдваюць свайго прызначэння, як і ўсюды...

... Восем разоў страляў Аляксандр Рэмез. У паветра. Аўтарытэтная камісія, якая пасля будзе разбіраць гэты выпадак, прыйдзе да высновы, што ў гэтай сітуацыі паставы меў права страляць у злачынцаў. Я спытаў у Аляксандра, што стрымала яго? Ён не задумваючыся адказаў: «Усё ж такі шкада было хлопцаў...»

Вось ён сядзіць перада мной — малады, прыгожы, са спакойным смуглявым тварам. Успамінаю, як яго характарызавалі ў аддзеле: дысцыплінаваны, вытрыманы, надзейны, таварыскі. І на гэты раз ён выканаў свой абавязак. Шкада толькі, што не ўсе ўдзельнікі злачынства атрымалі па заслугах. Будзем спадзявацца, *што апошняя кропка ў гэтай* гісторыі яшчэ не пастаўлена.

**М. ЗАМСКІ.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**5 чэрвеня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння паэта Зямы ПІВАВАРАВА (1910 — 1938). Вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме, у Вышэйшым педагагічным вучылішчы імя М. Горкага. Аўтар зборніка вершаў «Лірыка двух нараджэнняў».**

**12 чэрвеня — 90 гадоў з дня нараджэння паэта і драматурга, актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйнага руху былой Заходняй Беларусі Леапольда РОДЗЕВІЧА (1895—1937). Скончыў Вілейскае гарадское вучылішча, вучыўся ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду. Быў рэдактарам газеты «Чырвоны сцяг» і часопіса «Бальшавік». Аўтар п'ес «Пакрыўджаныя», «Блуднікі», «Збянтэжаны Саўка», драматычных сцэнак «Досвіткі» і іншых. Апублікаваў зборнікі вершаў «Беларусь» (1922), «На паняволеных гонях» (1928) і некалькіх кніг прозы. Вядомы публіцыст.**

## А Б' Я В Ы

# МІНСКІ ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ

**аб'яўляе прыём студэнтаў на 1985—1986 навучальны год**

**НА НАВУЧАННЕ З АДРЫВАМ АД ВЫТВОРЧАСЦІ**

Факультэт культурна-асветнай работы

па спецыяльнасці:
«культурна-асветная работа»

Спецыялізацыі: арганізацыя і методыка КАР, кіраўніцтва самадзейным тэатральным калектывам, кіраўніцтва самадзейным акадэмічным хорам, кіраўніцтва самадзейным народным хорам, кіраўніцтва самадзейным аркестрам народных інструментаў, кіраўніцтва самадзейным духавым і эстрадным аркестрам, кіраўніцтва самадзейным танцавальным калектывам, арганізацыя масавых святаў.

Факультэт бібліятэказнаўства і бібліяграфіі

па спецыяльнасці:
«бібліятэказнаўства і бібліяграфія»

Спецыялізацыі: бібліятэказнаўства і бібліяграфія грамадска-палітычнай, сельскагаспадарчай, дзіцячай, тэхнічнай літаратуры, мастацкай літаратуры і мастацтва.

Заявы падаюцца на імя рэктара па адзінай форме з 1 па 31 ліпеня. Да заявы дадаюцца: дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, характарыстыка для паступлення ў ВНУ з апошняга месца работы або вучобы, выдадзеная партыйнымі, камсамольскімі, прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый, праўленнямі калгасаў (прад'яўленне характарыстыкі звольненымі ў запас ваеннаслужачымі неабавязкова); завераная адміністрацыяй прадпрыемства або ўстановы выпіска з *працоўнай* кніжкі або кніжкі калгасніка; медыцынская даведка (форма № 086-у); шэсць фотакартак для дакументаў 3х4 см.

На спецыяльнасць «культурна-асветная работа» на падставе пастаноў ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і адпаведных загадаў Мінвуза СССР калгасам і саўгасам дазволена накіроўваць сваіх работнікаў і іх дзяцей як калгасных або саўгасных стыпендыятаў без наяўнасці двухгадовага стажу работы.

Па прыбыцці ў інстытут на экзамены абітурыент прад'яўляе асабіста пашпарт, ваенны білет (ваеннаабавязаныя запасу) або прыпіснае пасведчанне (асобы прызыўнога ўзросту).

Асобы, якія паступаюць, здаюць уступныя экзамены ў залежнасці ад абранай спецыяльнасці па наступных дысцыплінах: на спецыяльнасць «культурна-асветная работа» — па спецыялізацыі, рускай або беларускай мове і літаратуры (пісьмова і вусна), гісторыі СССР (вусна); на спецыяльнасць «бібліятэказнаўства і бібліяграфія» — па рускай або беларускай мове і літаратуры (пісьмова і вусна), гісторыі СССР (вусна), замежнай мове (вусна).

*Узнагароджаныя пасля* заканчэння сярэдняй школы залатым (сярэбраным) медалём, асобы, якія закончылі сярэднюю або прафесійна-тэхнічную навучальную ўстанову з дыпломам з адзнакай, здаюць экзамен толькі па адной з дысцыплін, а менавіта: на спецыяльнасць «культурна-асветная работа» — па спецыялізацыі; на спецыяльнасць «бібліятэказнаўства і бібліяграфія» — па рускай або беларускай мове і літаратуры (вусна).

Пры здачы экзамена з ацэнкай «пяць» яны вызваляюцца ад далейшай здачы ўступных экзаменаў, а пры атрыманні ацэнкі «чатыры» або «тры» здаюць экзамены па ўсіх адпаведных дысцыплінах. На асоб, якія закончылі з дыпломам з адзнакай сярэднія прафтэхвучылішчы на базе сярэдняй адукацыі, указаны парадак распаўсюджваецца пры паступленні на спецыяльнасці, адпаведныя атрыманым прафесіям.

Уступныя экзамены — з 1 па 20 жніўня. Залічэнне ў інстытут — з 21 па 25 жніўня. Прыбыццё на ўступныя экзамены — па выкліку прыёмнай камісіі.

Дакументы накіроўваць на адрас: 220001, Мінск, вул. Рабкораўская, 17. Даведкі па тэл.: 25-48-89.

**Прыёмная камісія.**

# «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» № 2

**В. Якавенка ў нарысе «Маршал і Чалавек з вялікай літары» знаёміць з біяграфіяй Маршала Савецкага Саюза І. Якубоўскага.**

**Большасць матэрыялаў нумара аб'яднаны рубрыкай «Да 40-годдзя Вялікай Перамогі». Змешчаны артыкул намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ А. Філімонава «Вялікая Перамога», нарыс Р. Пастрона «Ён ведаў і любіў Беларусь», у якім расказваецца пра сувязі з беларускай зямлёй Маршала Савецкага Саюза Г. Жукава, карэспандэнцыя Н. Ілоніна «Сцяна памяці» — пра справы юных следапытаў з Гомеля. Герой нарыса М. Гроднева «Ад Волгі да Берліна» ветэран вайны П. Кірэеў, С. Рудзянкова ўзнаўляе некаторыя эпізоды з дзейнасці газетчыкаў — «Чырвоная змена» ў гады вайны». Я. Сяленя расказвае пра ўдзельніка штурму рэйхстага Ф. Ёрша — «Ёсць сувязь з рэйхстагам!».**

**«Да 80-годдзя першай расійскай рэвалюцыі» — гэтай рубрыкай аб'яднаны матэрыялы І. Кулікова «За зямлю, за волю» і А. Каранеўскага «Па слядах рэвалюцыянера і публіцыста».**

**У нумары — пастаянныя раздзелы «З летапісу народнай славы», «Пошукі, знаходкі, даследаванні», «Жыццё таварыства», «Сярод кніг», «Што, дзе, калі...»**

# ЧАС ПАТРАБАВАЎ БАРАЦЬБЫ

**Да 90-годдзя з дня нараджэння Ігната ДВАРЧАНІНА**

У адзін з ясных асенніх дзён 1925 года актавая зала філасофскага факультэта Пражскага універсітэта, дзе праходзіла абарона дысертацый, была набіта бітком. Гэта была звычайная карціна ў час абароны дысертацый. Незвычайным было тое, што большасць прысутных размаўлялі не на чэшскай ці славацкай, а на не зусім зразумелай для некаторых прысутных беларускай мове. Тут сабраліся ў асноўным беларускія студэнты, якія вучыліся тады ў Карлавым універсітэце. Прычына, якая залучыла іх у гэтую ўрачыстую залу, праяснілася пасля таго, як сакратар Вучонага савета абвясціў тэму прадстаўленай на абарону доктарскай дысертацыі па філасофіі: «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе».

На кафедру выйшаў 30-гадовы чалавек з русымі зачэсанымі назад валасамі і прыветлівым, адкрытым тварам. За яго плячамі пасля бязрадаснага сялянскага дзяцінства ў беларускай вёсцы на Гродзеншчыне, засталіся нялёгкія гады вясковага настаўніцтва, салдацкай службы ў царскай арміі і нават катавання ў Беластоцкім канцлагеры, куды яго кінулі ў 20-я гады белапалякі за актыўную рэвалюцыйную дзейнасць на роднай навагрудскай зямлі.

Пасля дакладнай, прадуманай прамовы прэтэндэнта на атрыманне навуковай ступені пачалі выступаць важныя, апранутыя ў традыцыйныя чорныя мантыі і сівыя напудраныя парыкі, прафесары. Члены Вучонага савета аднадушна прагаласавалі за прысуджэнне навуковай ступені дысертанту. Паведамленне пра гэта было сустрэта бурнымі воплескамі. Так беларускі студэнт Ігнат Дварчанін стаў доктарам філасофіі Пражскага універсітэта.

Нарадзіўся ён 27 мая 1895 года ў вёсцы Погіры Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён Гродзенскай вобласці) у шматдзетнай сялянскай сям'і. У яго было 11 братоў і сясцёр. Дзякуючы выпадковым акалічнасцям скончыў у Дзятлаве пачатковую школу, затым здаў экзамен на званне народнага настаўніка і колькі год настаўнічаў на Слонімшчыне.

Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю І. Дварчанін сустрэў на фронце. Малады хлопец усёй душой вітае новую ўладу. У 1917 годзе ён актыўна ўключаецца ў палітычнае жыццё ў Мінску, а з 1918 года працуе ў Маскве ў Беларускім нацыянальным камісарыяце (Белнацкоме). Пасля таго, як Чырвоная Армія вызваліла заходнебеларускія землі ад войск германскіх імперыялістаў, Дварчанін вяртаецца ў родныя мясціны будаваць новае жыццё. Аднак акалічнасці для гэтага ў Заходняй Беларусі склаліся цяжкія. Яе тэрыторыя была акупіравана войскамі буржуазна-памешчыцкай Польшчы. На патрыётаў навалiліся незлічоныя рэпрэсіі і пастаянныя праследаванні. Так малады настаўнік аказаўся ў Беластоцкім канцэнтрацыйным лагеры.

Пасля выхаду на волю Дварчанін едзе ў Вільню. Тут ён здае экстэрнам экзамен на атэстат сталасці ў Віленскай беларускай гімназіі і як адзін з найбольш здольных вучняў атрымлівае магчымасць працягваць адукацыю ў Пражскім універсітэце. У 20-я гады чэхаславацкі ўрад штогод вылучаў некалькі дзесяткаў месц у Карлавым універсітэце для выхадцаў з Заходняй Беларусі, каб аказаць беларускаму народу дапамогу ў падрыхтоўцы кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. З восені 1921 года Дварчанін вучыцца ў Празе.

Гады яго навучання ва універсітэце супалі з падрыхтоўкай і святкаваннем 400-годдзя беларускага кнігадрукавання, якое шырока адзначалася ў многіх краінах, у тым ліку і ў Чэхаславакіі, дзе былі выдадзены першыя беларускія кнігі. Дварчанін, які быў выбраны старшынёй аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў у Празе, вырашыў не заставацца ў баку ад гэтай знамянальнай даты. У сваіх даследаваннях, што перараслі потым у доктарскую дысертацыю, ён звярнуўся да аналізу дзейнасці і светапогляду беларускага асветніка, першадрукара і гуманіста — Францыска Скарыны.

Адначасова ён вядзе плённую навуковую работу ў галіне гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя, выступае па гэтай праблеме з дакладамі ва універсітэцкім аб'яднанні беларускай моладзі, якая горача абмяркоўвае іх, крытыкуе, дапаўняе. Так паступова, абапіраючыся на вынікі студэнцкіх дыскусій, І. Дварчанін адбірае, сістэматызуе і назапашвае матэрыял для другой сваёй грунтоўнай працы — «Хрэстаматыі па новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)».

Паспяхова абараніўшы дысертацыю, якая атрымала высокую ацэнку прафесараў універсітэта У. Францава і Я. Махала, у 1926 годзе І. Дварчанін вяртаецца ў Вільню.

У маладога доктара філасофіі энергія, здаецца, б'е цераз край. Ён з вялікім поспехам выкладае літаратуру ў беларускай гімназіі, выступае з артыкуламі і вершамі ў прагрэсіўным друку, займаецца выдавецкай дзейнасцю, аказвае творчую дапамогу маладым пісьменнікам, рыхтуе да друку свае працы. Ва ўсіх, хто вучыўся, сустракаўся, ведаў Дварчаніна ў той час, захаваліся аб ім самыя цёплыя ўспаміны. У прыватнасці, адзін з удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі журналіст і пісьменнік Якуб Міско, які ў тыя гады вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, у сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» піша пра Дварчаніна так: «Мы, вучні, неяк адразу адчулі прыхільнасць да гэтага чалавека. Ён не проста выкладаў нам беларускую літаратуру, а стараўся, каб і разумелі яе, і любілі. (...) Кожны яго ўрок станавіўся ўрокам любові да літаратуры, да свайго народа, урокам добрых чалавечых пачуццяў».

У 1927 годзе ў Вільні выйшла ў свет «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)», складзеная І. Дварчаніным. У ёй былі надрукаваны найбольш значныя ў ідэйных і мастацкіх адносінах тэксты беларускіх пісьменнікаў і паэтаў XX ст., у невялікіх артыкулах дадзена характарыстыка іх жыццёвага шляху і творчай дзейнасці. «Хрэстаматыя» была выдадзена ў двух абсалютна ідэнтычных сваім зместам варыянтах. Першы складаўся з пяці асобных выпускаў, якія формай былі падобны да сучасных агульных сшыткаў і былі вельмі зручныя для карыстання. У другім варыянце ўсе пяць выпускаў былі перапляцены разам. Выхад у свет гэтай работы маладога вучонага разглядаўся прагрэсіўнымі коламі як значная з'ява ў заходнебеларускім грамадскім жыцці 20-х гадоў. «Не адно пакаленне заходнебеларускай моладзі,— піша дацэнт Гродзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч,— карысталася хрэстаматыяй Дварчаніна, якая стала тады незаменным дапаможнікам пры вывучэнні роднай літаратуры».

Працягвае працаваць І. Дварчанін і над скарынінскай тэмай. У пачатку 1927 года друкуецца яго артыкул «Аб годзе нараджэння Францыска Скарыны», у якім, між іншым, даследчык заўважае, што «як біяграфія, так і дзейнасць Скарыны патрабуе ўважных студыяў». Безумоўна, Дварчанін рыхтуе да друку (так лічыць і польская даследчыца Аляксандра Бергман) сваю доктарскую дысертацыю. Адначасова ён перакладае творы Карала Чапека на беларускую мову... Здаецца, колькі выдатных прац мог стварыць гэты таленавіты малады даследчык!

Аднак у той час у Заходняй Беларусі адбыліся падзеі, якія крута змянілі напрамак дзейнасці І. Дварчаніна. У пачатку 1927 года польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-рабочай Грамады, арыштавалі і кінулі за краты яе кіраўніка Браніслава Тарашкевіча. Час патрабаваў крайняй мабілізацыі ўсіх прагрэсіўных сіл, самаахвярнай барацьбы. У гэтых умовах не мог застацца ў баку ад актыўнай палітычнай дзейнасці чалавек, які яшчэ ў 1924 годзе напісаў такія вершаваныя радкі:

Смерць зладзеям, насільнікам; катам — агонь!.
Я зруйную датла вамі створаны свет,
У пастках вашых уласных вы знойдзеце скон...
Я ўстаю выпаўняць векавечны завет.

У гэты цяжкі для змагання час І. Дварчанін не вагаючыся ставіць на службу інтарэсам народа свой талент прамоўцы, даследчыка, сваю эрудыцыю, адукаванасць. «Без перабольшання можна сказаць,— піша Якуб Міско,— што пасля разгрому Грамады і арышту Браніслава Тарашкевіча Ігнат Дварчанін стаў адной з цэнтральных фігур у нацыянальна-вызваленчым руху Заходняй Беларусі».

У 1928 годзе Дварчанін выбіраецца ад Навагрудскай акругі ў польскі сейм. Яго кандыдатура была адобрана Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. Дварчанін становіцца намеснікам старшыні беларускага рабоча-сялянскага пасольскага клуба «Змаганне», які фактычна быў парламенцкай фракцыяй КПЗБ. Стварыўшы вясной 1929 года амаль ва ўсіх паветах мясцовыя сакратарыяты, «Змаганне» стала ўплывовай палітычнай арганізацыяй працоўных Заходняй Беларусі, змагалася за дасягненне тых самых мэт, што і Грамада.

Умела выкарыстоўваў І. Дварчанін і трыбуну сейма. Ён рашуча выкрываў антынародную палітыку санацыйнага ўрада пілсудчыкаў, сістэму сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, выступаў у абарону палітычных вязняў. Пасол, якога многія лічылі камуністам, часта ездзіў па гарадах і сёлах, выступаў на мітынгах і сходах, заклікаў народныя масы да барацьбы.

У канцы 1930 года Дварчанін быў арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў турмы. У гэты цяжкі для вучонага час ярка праявіліся яго якасці палітычнага змагара: мужнасць, непахісная воля, цвёрды характар. Тыя, хто бачыў Дварчаніна ў астрогах, успамінаюць, што паводзіў ён сябе як сапраўдны герой, не разгубіўся, не схіліў галавы перад пагрозамі і здзекамі. Калі аднойчы ў віленскай турме на Стафанаўскай вуліцы да яго ў камеру зайшоў пракурор і, відаць, жадаючы схіліць яго да здрады, прапанаваў яму як вучонаму і быламу паслу найбольш спрыяльныя ўмовы, І. Дварчанін коратка і пагардліва адказаў: «Ласкі панскай не трэба».

У 1932 годзе І. Дварчанін прыехаў у сталіцу нашай рэспублікі. Адразу ж пасля прыезду ў Мінск ён падаў заяву ў ЦК КП(б)Б з просьбай прыняць яго ў рады Камуністычнай партыі Беларусі...

Творчая спадчына і рэвалюцыйная дзейнасць Дварчаніна з'яўляюцца яркай старонкай у гісторыі нашай культуры і вызваленчай барацьбы. Яны патрабуюць папулярызацыі і вывучэння.

Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.

## НА блакітным ЭКРАНЕ

**З 17 ПА 23 ЧЭРВЕНЯ**

**17 чэрвеня, 20.00**

Лаўрэаты рэспубліканскага тэлевізійнага конкурсу самадзейных мастацкіх калектываў «ЗЯМЛЯ МАЯ».

Сустрэча з народным ансамблем песні і танца «МАЛАДОСЦЬ» Палаца культуры Упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва г. Віцебска.

**18 чэрвеня, 18.10**

**«ПІСЬМЕННІК І СУЧАСНАСЦЬ».**

Выступленне М. Федзюковіча.

**18 чэрвеня, 19.45**

**«ВЕЧАРЫ КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ».**

Прагучаць творы П. І. Чайкоўскага. Выканаўца: заслужаны артыст БССР В. Скарабагатаў.

Партыя фартэпіяна — заслужаная артыстка БССР Л. Максімава.

**21 чэрвеня, 19.45**

**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК. «ДЗВІНА».**

Літаратурна-мастацкі часопіс. Адбудзецца сустрэча з удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны А. Паншыным, які прачытае свае вершы, з самадзейным мастаком А. Вертуновым і фотамастаком У. Базанам.

**22 чэрвеня, 12.45**

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ».**

Прагучаць новыя вершы Ю. Свіркі. Чытае аўтар.

**22 чэрвеня, 13.05**

**В. КАНДРАЦЬЕЎ. «САШКА».**

Спектакль Данецкага абласнога тэатра юнага гледача.

**22 чэрвеня, 14.40**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ».**

Рэпартаж з рэспубліканскай выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю Вялікай Перамогі. Вядучы — У. Бойка.

**22 чэрвеня, 15.20**

**П. ПАДКАВЫРАЎ.** Канцэрт для скрыпкі з аркестрам «Памяці М. Гастэлы».

Выконвае сімфанічны аркестр Беларускага тэлебачання і радыё. Мастацкі кіраўнік і дырыжор заслужаны артыст БССР Б. Райскі. Саліст — народны артыст БССР Л. Гарэлік.

**22 чэрвеня, 18.05**

**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ».**

Народная артыстка БССР С. Станюта. Аб творчасці актрысы раскажуць народны мастак СССР З. Азгур. заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Б. Луцэнка, народны артыст БССР І. Дабралюбаў. Будуць паказаны сцэны са спектакляў і ўрыўкі з кінафільмаў з удзелам С. Станюты.

**23 чэрвеня, 12.00**

**«МУЗЫЧНАЕ МАСТАЦТВА НАРОДАЎ СССР».**

Канцэрт майстроў мастацтваў Узбекістана.

**23 чэрвеня, 13.20**

**«ПЕРАЗОВЫ ГАЛАСОЎ МАЛАДЫХ».**

Паэты І. Багдановіч і А. Касцень. Вядучы — Р. Барадулін.

**23 чэрвеня, 13.50**

**«НАШЫ ГОСЦІ».**

Іграе Дзяржаўны духавы аркестр РСФСР.

**23 чэрвеня, 18.05**

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ».**

Сустрэча з народным артыстам РСФСР У. Дружнікавым.

**23 чэрвеня, 19.40**

**«ВЫТОК».**

Рэпартаж з Літаратурнага музея Янкі Купалы.

У перадачы прымае ўдзел дырэктар музея А. Кулакоўскі. Вершы Янкі Купалы прагучаць на мовах народаў СССР і народаў свету ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў і студэнтаў інстытута замежных моў.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**В. ЖУКОВІЧ.** Цана цішыні. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1985.— 50 к.

**А. КУЛАКОЎСКІ.** Белы Сокал. Аповесці. Мн., «Юнацтва», 1985. — 85 к.

**А. МІНКІН.** Сурма. Вершы. Серыя «Першая кніга паэта». Мн., «Мастацкая літаратура», 1985. — 15 к.

**М. СКРЫПКА.** Злазьце — прыехалі! Байкі, гумарэскі, фельетоны. Мн., «Мастацкая літаратура», 1985. —45 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 04212 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела мастацтваў — 33-21-53, аддзела арганізацыйна-масавай работы — 33-19-65, аддзела культуры — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва — 23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.